СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.01, 18.31, 12.30;
Віцебск — 5.50, 18.22, 12.32;
Магілёў — 5.50, 18.20, 12.30;
Гомель — 5.45, 18.19, 12.34;
Гродна — 6.13, 18.48, 12.35;
Брэст — 6.17, 18.46, 12.29.

МЕСЯЦ:
Апошняя квадра 26 сакавіка.

ІМЯНІНЫ:
Феафана, Рыгора, Сямёна.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

25 САКАВІКА 1992 г. серада, № 61 (21839)



НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Святое месца пустым не бывае...

Перабудаваць, аказваецца, можна ўсё. Нават — Вярхоўны Савет нашай рэспублікі. Прычым, без рэферэндуму, роспуску і выказвання недаверу яму... Не верыце? А я ўчора паверыў.

...Учора Вярхоўны Савет пачаў сваё пасяджэнне на высокай ноце. Вельмі нават высокай. Ужо ў «розным» — падпункце парадку дня, з якога цяпер пачынаецца работа парламента, — дасталося «на арэхі» абодвум лідэрам Рэспублікі Беларусь: і Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу, і Старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу. Папрокі ў тым, што яны не рашучыя, не актыўныя, нясмелыя ў зносінах з іншымі суб'ектамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, што, прынамсі, засведчыла апошняя сустрэча кіраўнікоў СНД у Кіеве, сыпаліся на Станіслава Станіслававіча і Вячаслава Францавіча і справа, і злева, і з цэнтра. Ім стала не да жартаў: гэта былі сапраўдныя крыкі душ народных выбраннікаў. Застаўшыся, у рэшце рэшт, вельмі незадаволенымі выступленнямі Шушкевіча і Кебіча, іх працай на кіеўскай нарадзе, дэпутаты настаялі на ўключэнні ў парадак дня цяперашняй сесіі пытання аб справаздачы Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб сваёй рабоце.

Так што будзе на сесіі яшчэ адно «гарачае» пасяджэнне.

У такой вось напружанай, скажу больш — напаленай атмасферы С. Шушкевіч, які вёў учора пасяджэнне, рызыкнуў вынесці на разгляд парламентарыяў яшчэ адно тонкае і, разам з тым, балючае пытанне — аб першым намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Чытачы, мабыць, ужо і забыліся, што ёсць у парламенце такая вакансія. Яна пустуе з таго далёкага ўжо часу, калі падаў у адстаўку Мікалай Іванавіч Дземянцей, а ягоны пост Старшыні Вярхоўнага Савета заняў Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, які з'яўляўся тады першым намеснікам. Не адну спробу рабіў ужо кіраўнік парламента, каб запоўніць вакансію, але... Не задавальнялі народных выбраннікаў прапанаваныя ім кандыдатуры, «знаходзілі» яны ў іх біяграфіях і паводзінах хібы, недахопы, упушчэнні. І вось новы прэтэндэнт...

На гэты раз С. Шушкевіч прапанаваў на разгляд кандыдатуру Вячаслава Кузняцова, народнага дэпутата рэспублікі ад 34 выбарчай акругі, старшыні выканаўчага камітэта Савецкага раёна горада Мінска. Рэкамендуючы яго, Станіслаў Станіслававіч не пашкадаваў добрых слоў і пра кампетэнтнасць Вячаслава Мікалаевіча, і пра ягоны вопыт работы... Але іншай думкі прытрымліваліся некаторыя народныя дэпутаты, у прыватнасці, Уладзімір Грыбанаў, Іван Герасюк і іншыя, якія ведаюць з ранейшай працоўнай біяграфіі Кузняцова, на іх думку, недапушчальныя заганы і пралікі. Спрэчка вакол саіскальніка на высокі дзяржаўны пост зноў была напружанай і вострай, а калі пытанне было пастаўлена на галасаванне, у зале пачуліся нягучныя апладысменты: кандыдатура Вячаслава Кузняцова прайшла... З чым мы яго таксама віншуем!

Пад удалы настрой і «злоўлены» рытм тут жа было вырашана і яшчэ адно кадравае пытанне. Адна з асноўных парламенцкіх камісій, як высветлілася, не мае ў сваім штаце сакратара. Размова аб Камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах і знешніх эканамічных сувязях (зазначу ў скобках, што назва яе, кажуць, неўзабаве будзе іншай, але пакуль што яна гучыць менавіта так). Старшыня камісіі Пётр Садоўскі, абгрунтаваўшы неабходнасць такой пасады, прапанаваў на яе народнага дэпутата Валянціна Голубева. І зноў цуд: кандыдатура знайшла падтрымку. І левыя, і правыя, і цэнтрысты даверылі Валянціну Фёдаравічу сур'ёзны, важны і адказны пост, выказаўшы пры гэтым надзею і спадзяванне, што ягоныя, іншы раз залішнія, эмоцыі адыдуць на другі план... Што ж, праўда ёсць праўда: не адзін раз мы і сапраўды пераконваліся, што Голубеў — дэпутат талковы, эрудыраваны, а сур'ёзнасць і адказнасць за словы (а цяпер—і за справы) да яго прыйдуць абавязкова.

Віншуем і вас, Валянцін Фёдаравіч!

Затым народныя дэпутаты рэспублікі пачалі абмеркаванне ў першым чытанні аднаго з ключавых пытанняў цяперашняй сесіі — «Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве ўласнасці на зямлю». Праекты прадстаўлены два — Саветам Міністраў і апазіцыяй Народнага фронту. Дай Бог, каб і гэту праблему народныя выбраннікі абмеркавалі таксама сур'ёзна, памяркоўна, у інтарэсах народа!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## Настане час, калі дзень 25 сакавіка стане святам для кожнага беларуса

**Адзначаючы Дзень абвяшчэння БНР, мы пільна ўглядаемся ўглыб нашага мінулага, стараючыся разгледзець і вывучыць не толькі падмурак, але і гмах уласнага дзяржаўнага дома, усё тое, што так доўга знаходзілася ў ідэалагічным тумане**

Вывучаючы латышска-беларускія сувязі, я напаткаў у штомесячніку «Беларуская школа ў Латвіі» (№ 3 (20), сакавік 1933 г., Рыга) артыкул «15-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі», у якім вачамі сведкі і ўдзельніка тых падзей апісаны дзень 25 сакавіка 1918 года. Вось гэты тэкст.

«У ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года, у Менску, пасля доўгіх абгавораў і спрэчак, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла незалежнасць Беларусі ад Расеі і выдала з гэтай нагоды «Другую Устаўную Грамату» да жыхарства Беларусі.

Калі абвешчаны былі вынікі галасавання, у зале запанаваў урачыста-ўзняты настрой, беларускія сацыялісты заспявалі рэвалюцыйны беларускі гімн: «Ад веку мы спалі і нас разбудзілі». Уся Рада ўстала і дружна падхапіла гэтую хвалюючую, магутную мелодыю з яе захапляючымі, як прысяга, словамі...»

Успаміны падпісаны псеўданімам Кангрэсавец. Не прыйшлося доўга шукаць яго разгадкі, бо ў тым жа нумары «Беларускай школы ў Латвіі» была змешчана нататка Я. Клагіша пра юбілейнае святкаванне дня 25 сакавіка ў Рызе, дзе паведамлялася, што старшыня Беларускага навукова-краязнаўчага таварыства гр. К. Езавітаў «прачытаў вычэрпваючы і багаты ў гістарычныя дэталі даклад аб акце 25 сакавіка 1918 года». У нататцы дакладчык названы ўдзельнікам таго гістарычнага акта. Цяпер ужо вядома, што Канстанцін Езавітаў уваходзіў у састаў першага ўрада БНР, а пасля, як дыпламат, прадстаўляў рэспубліку ў краінах Прыбалтыкі, дзе ўрэшце і арганізаваў культурна-асветніцкую дзейнасць латвійскіх беларусаў. Дарэчы, К. Езавітаў быў адказным рэдактарам «Беларускай школы ў Латвіі», з якой мы працыталі ўрывак з успамінаў Кангрэсаўца.

Пра К. Езавітава — дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, педагога, выдаўца, перакладчыка, паэта — будзе яшчэ напісана нямала. Будуць па справядлівасці ацэнены яго пакручастыя, трагічныя звіліны лёсу, адзначана, у чым яго бяда і віна перад самім сабою і Бацькаўшчынай. Я ж толькі прывяду такое выказванне выпускніцы Дзвінскай (Даўгаўпілскай) беларускай дзяржаўнай гімназіі (1927) і Латвійскай кансерваторыі (1932), опернай спявачкі Надзеі Мікалаевай-Комісар. Вось што яна мне нядаўна напісала з Рыгі: «Калі вы адразу згадалі, што Езавітаў быў рэпрэсіраваны, мне было балюча пра гэта чуць. Вось і зараз усплывае яшчэ адзін успамін, калі мы, група беларускіх гімназістаў, сустракалі ў 1926 годзе Езавітава, вызваленага з Даўгаўпілскай турмы, куды ён быў пасаджаны па інкрымінаванаму абвінавачванню ў нібыта антыдзяржаўнай дзейнасці. Мы, дзяўчаты-гімназісткі, стаялі ля варот турмы з кветкамі ў руках і з заміраючым сэрцам чакалі яго з'яўлення. Калі шчыра, то ўсе дзяўчаты былі ў яго патаемна закаханыя, у тым ліку і я. На жаль, наша петыцыя да міністра асветы паэта Я. Райніса (у дэлегацыі была і я), дзе мы прасілі, каб П. Мядзёлку, К. Езавітава, іншых падсудных не высялялі з Латвіі, не дала належнага выніку. На шчасце, К. Езавітаў быў апраўданы. І ўжо калі была студэнткай кансерваторыі ў Рызе і з ахвотай прымала ўдзел у культурна-асветніцкай рабоце на латгальскай перыферыі, Канстанцін Барысавіч заўсёды апекаваў гастролі нашых самадзейных артыстаў. Пры ім кіпела жыццё беларускага адраджэння ў Латвіі...»

То чаму ж з прыемнай нагоды не згадаць нязлым, ціхім словам добрыя ўчынкі людзей, не пачуць з першых вуснаў уражанні аб першых днях нашай дзяржаўнасці?

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

**НА ЗДЫМКУ: К. ЕЗАВІТАЎ (у цэнтры) — інспектар школ Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі (1922 г.).**

## «МЫ АДРЫВАЕМСЯ АД САВАЁЙ ГІСТОРЫІ»

**Роўна 74 гады назад, 25 сакавіка 1918 года, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваёй трэцяй Устаўной грамаце заявіла, што з роднага краю скідаецца «апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю». На вуліцах Мінска мы задалі людзям адно пытанне: «Чым знамянальны сённяшні дзень?». І вось што пачулі ў адказ:**

**Іван НІЧЫПАРОВІЧ, інжынер:** 25 сакавіка? Не памятаю дакладна, але, на мой погляд, у 1918 годзе была абвешчана Незалежная Беларусь. Дата знамянальная для нас, жыхароў рэспублікі, але, як бачыце, успамінаецца з цяжкасцю. Чамусьці атрымліваецца так, што мы адрываемся ад сваёй гісторыі. А народ, які забывае сваё мінулае, скажу больш — сваю культуру,— перастае існаваць. Мы зараз патанулі ў кучы эканамічных праблем. Я маю на ўвазе і нашых парламентарыяў, і беларусаў увогуле. Таму зараз нікому няма справы да таго, што адбывалася ў нейкім 1918 годзе. І гэта вельмі сумна.

**Ганна Гаўрылаўна КАРПЕНКА, настаўніца пачатковых** класаў: Як жа, 74 гады таму назад беларусы адсвяткавалі свой першы дзень волі. У той час, калі вялікія палітыкі з Усходу і Захаду дзялілі наш край між сабой, беларусы толькі самі маглі вырашаць свой далейшы лёс. І вырашылі, як бачым. А сёння мы пра гэта забыліся. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь на сесіі так і не прыняў пастановы аб гэтым свяце. Шкада. На жаль, мы пакуль не ўсвядомілі, што гісторыяй сваёй трэба ганарыцца.

**Іосіф ВАЙЦЯХОВІЧ, прадавец камісійнай лаўкі:** Чым знамянальны? Ну, па-першае, хутка прыйдзе другі месяц вясны. Па-другое, на носе першае красавіка... Незалежная і вольная дзяржава?.. Не, не памятаю нічога такога. Свята 25 сакавіка няма. У календарах гэтая дата таксама чырвоным колерам не выдзелена. Адкуль жа мне ведаць, чым знамянальны сённяшні дзень? Гісторыю, якую вывучаў у школе, даўно ўжо выкінуў з галавы. Спытайцеся лепш, чым знамянальны дзень 22 красавіка. Вось на гэтае пытанне я вам адкажу.

**Падрыхтаваў Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ЗАПРАШЭННЕ ВЫБАРШЧЫКАМ

Як вядома, пры правядзенні паўторных выбараў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь па трох выбарчых акругах у Мінску і адной у Гродна было прызнана, што яны не адбыліся, паколькі ў іх прыняло ўдзел менш паловы выбаршчыкаў, унесеных у спісы. Яшчэ па васьмі выбарчых акругах у Мінску паўторныя выбары, якія былі намечаны на 1 снежня 1991 года, не праводзіліся па прычынах, якія прадугледжаны заканадаўствам.

У сувязі з гэтым Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь сваёй пастановай даручыла акруговым выбарчым камісіям **правесці паўторныя выбары народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь 31 мая 1992 года.** У гэты дзень выбары павінны адбыцца ў выбарчых акругах: Маскоўскай № 2, Серабранскай № 3, Аўтазаводскай № 8, Грушаўскай № 14, Голубеўскай № 16, Аэрафлоцкай № 20, Акадэмічнай № 27, Валгаградскай № 28, Каліноўскай № 29, Горкаўскай № 37, Луначарскай № 38 г. Мінска і Гродзенскай — Горкаўскай № 238 Гродзенскай вобласці.

Галасаванне адбудзецца на тых жа выбарчых участках па спісах выбаршчыкаў, удакладненых напярэдадні выбараў.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 сакавіка 1992 г. мінімальную заработную плату ў размеры 550 рублёў у месяц.

2. Адмяніць пункт 2 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 21 студзеня 1992 г. № 1326-ХП «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мінімальнай заработнай плаце і дзяржаўных гарантыях у галіне аплаты працы».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

17 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ КАНЦЭПЦЫІ МЫТНАЙ ПАЛІТЫКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Адобрыць канцэпцыю мытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь, падрыхтаваную Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 20 верасня 1991 года «Аб мытнай службе Рэспублікі Беларусь» (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

## Закон Рэспублікі Беларусь

## Аб асновах арганізацыі мытнай службы Рэспублікі Беларусь

Дадзены Закон устанаўлівае прававыя і арганізацыйныя асновы мытнай справы ў Рэспубліцы Беларусь, вызначае галоўныя задачы мытнай службы і накіраваны на абарону эканамічных і іншых інтарэсаў рэспублікі.

**Артыкул 1.**
У Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца адзіная мытная палітыка, якая з'яўляецца састаўной часткай знешняй і ўнутранай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

Парадак перамяшчэння праз мытную мяжу тавараў, прадметаў і транспартных сродкаў, мытныя абкладанні і мытнае афармленне, кантроль і іншыя сродкі правядзення ў жыццё мытнай палітыкі складаюць мытную справу.

Мытная справа ў рэспубліцы развіваецца ў адпаведнасці з агульнапрынятымі ў міжнароднай практыцы нормамі і стандартамі.

**Артыкул 2.**
Тэрыторыя Рэспублікі Беларусь складае адзіную мытную тэрыторыю. Межы мытнай тэрыторыі з'яўляюцца мытнай мяжой Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3.**
Распрацоўка і рэалізацыя мытнай палітыкі, агульнае кіраўніцтва мытнай справай ажыццяўляюцца вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўныя органы, якія не ажыццяўляюць агульнага кіраўніцтва мытнай справай, а таксама мясцовыя органы ўлады не маюць права прымаць рашэнні, што закранаюць кампетэнцыю мытных органаў Рэспублікі Беларусь у галіне мытнай справы згодна з артыкулам 1 дадзенага Закона і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 4.**
Непасрэднае ажыццяўленне мытнай справы ўскладаецца на мытную службу.

Мытная служба прадстаўляе сабой адзіную сістэму дзяржаўных мытных органаў Рэспублікі Беларусь, якая ўключае:

Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь;
рэгіянальныя мытні;
мытні;
мытныя пасты.

**Артыкул 5.**
Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца цэнтральным мытным органам рэспублікі, які ў сваёй дзейнасці падпарадкоўваецца Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь узначальвае старшыня, які назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Палажэнне аб Дзяржаўным мытным камітэце Рэспублікі Беларусь зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6.**
Рэгіянальныя мытні і мытні з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі і дзейнічаюць у межах кампетэнцыі, якая вызначаецца палажэннямі аб іх, зацверджанымі Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь.

Стварэнне, рэарганізацыя і ліквідацыя рэгіянальных мытняў і мытняў праводзяцца Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і адпаведнымі мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў.

Кіраўнікі рэгіянальных мытняў і мытняў назначаюцца Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7.**
Мытныя органы рэспублікі і транспартныя сродкі, якія знаходзяцца ў іх распараджэнні, маюць апазнавальныя знак і сцяг.

Палажэнне аб апазнавальных знаку і сцягу зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8.**
Галоўнымі задачамі мытнай службы з'яўляюцца:

абарона эканамічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, барацьба з кантрабандай і іншымі парушэннямі мытных правіл, спыненне незаконнага абароту наркатычных сродкаў, зброі, прадметаў культурнай і гістарычнай спадчыны Беларусі, аб'-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПРАЦЫ І САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

**Пастанова ад 19 сакавіка 1992 г. № 10/265 г. Мінск**

## Аб размерах дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей

У мэтах выканання пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 108 ад 28 лютага 1992 г. Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

1. Зацвердзіць і ўвесці з 1 сакавіка 1992 года новыя размеры дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Аднаразовыя дапамогі:

1.1. 1.100 рублёў — дапамога пры нараджэнні дзіцяці (у выпадку нараджэння двух ці больш дзяцей дапамога выплачваецца на кожнае дзіця);

1.2. 550 рублёў — дапамога жанчыне, нарадзіўшай дзіця, якая стала на ўлік у кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці.

Штомесячныя дапамогі:

1.3. 660 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту 3 гадоў працуючым маці ці бацьку, або іншаму сваяку, усынавіцелю (апекуну), а таксама непрацуючым жанчынам, маючым дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў;

1.4. 825 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту 3 гадоў, а таксама непрацуючым, маючым дзіця гэтага ж узросту, адзінокім маці, разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма;

1.5. 990 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту 3 гадоў, а таксама непрацуючым, маючым дзіця гэтага ж узросту, адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы;

1.6. Калі ў час водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім трохгадовага ўзросту нараджаецца наступнае дзіця, то за перыяд водпуску, што прадастаўляецца жанчыне па цяжарнасці і родах, дапамога на першае дзіця выплачваецца ў поўным размеры.

У выпадку спынення водпуску па догляду за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў у сувязі з выхадам на поўны рабочы дзень ці на ўмовах няпоўнага рабочага дня (больш за палавіну месячнай нормы), а таксама пры афармленні дзіцяці ў дзіцячую дашкольную ўстанову, устаноўленая дапамога па догляду за дзіцем выплачваецца ў размеры 50 працэнтаў;

жанчыны, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду за дзіцем і адначасова працягваюць вучобу ў прафесіянальна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах з адрывам ад вытворчасці, маюць права на атрыманне стыпендыі і дапамогі ў поўным размеры.

Жанчынам, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі, але жывуць з сям'ёй за яе межамі, дапамогі на дзяцей назначаюцца і выплачваюцца толькі ў выпадку знаходжання жанчын у водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту 3-х гадоў.

1.7. 330 рублёў — сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.8. 410 рублёў — адзінокім маці, разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.9. 495 рублёў — адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.10. 385 рублёў — сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі, — да 18 гадоў), а таксама навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў старэйшых за 18 гадоў);

1.11. 480 рублёў — адзінокім маці, разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі, — да 18 гадоў, а таксама навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў старэйшых за 18 гадоў);

1.12. 580 рублёў — адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі, — ва ўзросце да 18 гадоў, а таксама навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў за 18 гадоў);

1.13. Дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі, — да 18 гадоў, а навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў ва ўзросце старэйшых за 18 гадоў), у выпадку, калі працаздольныя бацька і маці абодва не працуюць, не вучацца і не зарэгістраваны ў дзяржаўнай службе занятасці ў якасці беспрацоўных з назначэннем дапамогі па беспрацоўю, не назначаецца і не выплачваецца.

Пытанні, звязаныя з выплатай дапамогі на дзяцей грамадзянам, часова страціўшым работу па прычынах, якія ад іх не залежаць, і не зарэгістраваным у дзяржаўнай службе занятасці, разглядаюцца і вырашаюцца выканкомамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, што вучацца ў прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, а таксама працуючых падлеткаў, дзяржаўная дапамога не назначаецца і не выплачваецца пры ўмове атрымання гэтымі дзецьмі стыпендыі ці заработнай платы.

1.14.275 рублёў — дапамога непрацуючым і не атрымліваючым пенсій па догляду за інвалідам I групы, за дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама састарэлым, што дасягнуў 80-гадовага ўзросту;

1.15. 825 рублёў — дапамога на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека ці хворых на СНІД.

2. На дзяцей, якія знаходзяцца пад апекай (папячыцельствам) у сем'ях, што не маюць статуса апякунскіх (прыёмных) сем'яў і не атрымліваюць штомесячных выплат на ўтрыманне апякаемых у адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5.02.1991 г., дапамогі, прадугледжаныя гэтай пастановай, выплачваюцца апекуну органамі народнай асветы.

3. Дапамогі на дзяцей старэйшых за 16 гадоў, якія скончылі дзённыя агульнаадукацыйныя школы, дадаткова выплачваюцца:

— у год заканчэння школы за ліпень, а на дзяцей, якія працягваюць вучыцца ў прафесіянальна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, — за жнівень;

— на дзяцей, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах (працуючых па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час) і не атрымліваюць стыпендыі, да спаўнення ім 18 гадоў.

4. Выплата дзяржаўных дапамог сем'ям, дзеці якіх знаходзяцца ў дзіцячых інтэрнатных установах на дзяржаўным забеспячэнні, ажыццяўляецца ў адпаведнасці з растлумачэннем Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Міністэрства фінансаў і Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 27.02.92 (№ 05-2-11) 264, 06-4/190, № 09-8/58).

5. Выплаты дапамог на дзяцей, устаноўленых пунктамі 1—4 гэтай пастановы рабіць па месцы асноўнай работы (вучобы, службы) маці, а ў выпадку, калі маці не працуе, — па месцы асноўнай работы (вучобы, службы) бацькі ці асоб, якія замяняюць бацькоў. У іншых выпадках дапамогі выплачваюцца ў органах сацыяльнага забеспячэння ці народнай адукацыі па месцы пастаяннага жыхарства аднаго з бацькоў з дзіцем ці асоб, якія замяняюць бацькоў.

Дапамогі на дзяцей назначаюцца і выплачваюцца органамі сацыяльнага забеспячэння па месцы жыхарства:

— непрацуючым жанчынам, якія пастаянна жывуць з дзецьмі ў Беларусі, у выпадку, калі іх мужы працуюць за межамі рэспублікі;

— непрацуючым бацькам працаздольнага ўзросту, разведзеным мужчынам (жанчынам), удовам (удаўцам), зарэгістраваным у якасці беспрацоўных з атрыманнем дапамогі па беспрацоўю ў Дзяржаўнай службе занятасці;

— непрацуючым пенсіянерам, а таксама асобам, якія не працуюць і не атрымліваюць пенсій, і ажыццяўляюць догляд за інвалідам I групы, дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў ці састарэлым, што дасягнуў 80-гадовага ўзросту;

— бацькам, якія займаюцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю.

Жанчынам, працуючым на прадпрыемствах, у арганізацыях, што размешчаны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, але не знаходзяцца пад яе юрысдыкцыяй, дапамога на дзяцей назначаецца і выплачваецца па месцы работы мужа (калі прадпрыемства знаходзіцца пад юрысдыкцыяй рэспублікі), а пры яго адсутнасці — у органах сацыяльнага забеспячэння па месцы жыхарства. Пры гэтым факт неатрымання дапамогі на дзяцей па месцы работы маці павінен пацвярджацца даведкай прадпрыемства.

Выплата дапамог на дзяцей, назначаных выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, грамадзянам, часова страціўшым работу па незалежных ад іх прычынах і не зарэгістраваным у дзяржаўнай службе занятасці, робіцца органамі сацыяльнага забеспячэння.

6. Прызнаць страціўшым сілу пастанову Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1991 г. № 33/1056.

**Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва**
**Г. П. БАДЗЕЙ.**
**Міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь**
**С. П. ЯНЧУК.**

ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# БЕЛЫ, ЧЫРВОНЫ, БЕЛЫ...

**Магчыма, архіўная знаходка дапаможа нам даведацца, хто ж быў аўтарам эскіза сучаснага Дзяржаўнага сцяга**

У ГАРАЧЫХ СПРЭЧКАХ нараджаліся восенню мінулага года пастановы Вярхоўнага Савета аб прызнанні ў якасці дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь старажытнага герба «Пагоня» і нацыянальнага бела-чырвона-белага сцяга. Парламенцкім дэбатам папярэднічалі не менш бурныя і ўсхваляваныя дыскусіі сярод палітыкаў, публіцыстаў, вучоных у сродках масавай інфармацыі і навуковых аўдыторыях. Прыводзілася нямала фактаў з гісторыі герба «Пагоня», рабіліся спробы высвятліць і паходжанне бела-чырвона-белага сцяга, аднак з-за адсутнасці дакументальных крыніц апошняе пытанне засталося адкрытым. У прэсе было шмат публікацый, дзе падрабязна прасочваўся радавод беларускіх нацыянальных сімвалаў ад далёкай старажытнасці да навейшага часу, пераканаўча паказвалася, што белы і чырвоны колер спрадвеку былі любімымі колерамі нашых продкаў, што іх спалучэнне ў розных варыяцыях (пурпуровыя палосы і крыжы на белым фоне, белая выява конніка з узнятым мячом на чырвоным шчыце або палотнішчы) мае вельмі глыбокія гістарычныя карані, якія сягаюць часоў агульнаславянскай ці нават індаеўрапейскай супольнасці. Але ўсё яшчэ заставалася невядомым, калі і кім быў створаны сучасны варыянт сцяга, яго менавіта трохпалосны малюнак? І вось зараз мы маем дакументальныя матэрыялы, якія дазваляюць істотна наблізіцца да адказу на гэтае пытанне. **На іх падставе з высокай ступенню імавернасці можна сцвярджаць, што аўтарам эскіза бела-чырвона-белага сцяга быў вядомы дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, палітык і асветнік, інжынер-будаўнік па прафесіі Клаўдзій Сцяпанавіч Душэўскі (Дуж-Душэўскі).**

ГЭТЫ ВЫДАТНЫ таленавіты чалавек пражыў цікавае, багатае на падзеі жыццё. Нарадзіўся ён 27 сакавіка 1891 года ў мястэчку Глыбокае Дзісненскага павета ў сям'і, якая належала да дробнай беларускай шляхты. Прадзед Клаўдзія з боку маці Урублеўскі загінуў у паўстанні 1830—1831 гадоў, дзед Высоцкі — у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Не адразу знайшоў хлопец устойлівыя ідэйныя арыенціры. Але вось навучэнцу Віленскага рэальнага вучылішча Клаўдзію Душэўскаму трапляюць у рукі зборнік Ф. Багушэвіча «Смык беларускі» і газета «Наша ніва», а недзе каля 1910 года лёс зводзіць яго з Вацлавам Ластоўскім, братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, іншымі дзеячамі беларускага Адраджэння, — і гэта цвёрда вызначае кірунак яго далейшага жыцця.

У 1912 годзе выпускнік рэальнага вучылішча паступае ў Пецярбургскі горны інстытут. Увесь вольны ад прафесіянальных заняткаў час К. Душэўскі аддае нацыянальна-культурнаму руху, які да таго часу набыў шырокі размах сярод беларусаў Пецярбурга. Разам з землякамі — студэнтамі Пецярбургскага універсітэта ён актыўна ўдзельнічае ў працы Беларускага навукова-літаратурнага гуртка, мае дачыненне да выдання часопіса «Раніца» (1914), газет «Дзянніца» і «Светач» (1916), знаёміцца з Янкам Купалам і выконвае ролю Сцяпана Крыніцкага ў яго «Паўлінцы» ў пастаноўцы студэнцкага гуртка. У гады першай сусветнай вайны шчодра дзеліцца сіламі і часам дзеля дабрачыннай працы ў Беларускім таварыстве па аказанню дапамогі пацярпеўшым ад вайны (1916—1918).

Большасць прыведзеных тут фактаў зафіксавана ў аўтабіяграфіі К. Душэўскага на літоўскай мове, выяўленай аўтарам гэтых радкоў у Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь, і пацвярджаецца іншымі крыніцамі. Працягваючы расказ пра сваю дзейнасць на ніве беларускага Адраджэння, К. Душэўскі паведамляе далей аб выключна важным для вывучэння гісторыі нашай дзяржаўнай сімволікі факце. **«Цікава адзначыць, — піша ён, — што беларусы ўважалі сваім дзяржаўным сцягам той, што і літоўцы, г. зн. белую Пагоню на чырвоным полі, але нацыянальнага сцяга не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга, і адзін з іх быў прыняты, менавіта: бела-чырвона-белы. Ад таго часу гэты сцяг і лічыцца за беларускі нацыянальны сцяг».** (Дакумент цытуецца ў перакладзе Я. Войніча). На жаль, у аўтабіяграфіі няма дакладнай даты гэтай неардынарнай падзеі, але з іншых дакументаў вядома, што ўжо вясной 1917 года ў Петраградзе над будынкам Беларускага таварыства дапамогі пацярпеўшым ад вайны лунаў беларускі сцяг, а ў Мінску 12 сакавіка 1917 года адбылося нацыянальнае свята — «Дзень беларускага значка», у час якога шырока прадаваліся значкі з відарысам гэтага сцяга. З улікам прыведзеных звестак можна меркаваць, што эскіз бела-чырвона-белага сцяга — сучаснага Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь — быў створаны К. Душэўскім не пазней пачатку рэвалюцыйнага 1917 года. Як аматар роднай гісторыі (вядома, напрыклад, што ў студэнцкім навукова-літаратурным гуртку ён распрацоўваў тэму «Вывучэнне старажытных гістарычных помнікаў і ахова даўніны»), К. Душэўскі, трэба думаць, добра ведаў назапашаныя стагоддзямі традыцыі беларускай геральдыкі і выканаў малюнак сцяга ў строгай адпаведнасці з імі. Выява сцяга ўдала сімвалізуе як трагічны пачатак у гісторыі Бацькаўшчыны, так і светлую, чыстую веру народа ў немінучы трыумф дабрыні і справядлівасці, дакладна адлюстроўвае яго мастацкі густ. Усё гэта забяспечыла хуткае прызнанне сцяга як неад'емнага атрыбута беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, трывала замацавала яго ў палітычнай свядомасці беларусаў.

Кастрычніцкія падзеі 1917 года ўносяць неразбярыху ў жыццёвыя планы і пачынанні К. Душэўскага. Заканчваўся тэрмін яго навучання ў інстытуце, але выявілася, што немагчыма атрымаць дыплом, бо «рабоча-сялянская» ўлада напачатку адмяніла ўсе дыпломы наогул. Няпэўнымі сталі і перспектывы грамадска-палітычнага развіцця, будучыня роднай Беларусі. Рэальныя крокі новых улад разыходзіліся з гучна абвешчаным правам нацый на самавызначэнне «аж да поўнага аддзялення». У снежні 1917 года па загаду мясцовага Саўнаркома ўзброенымі салдатамі разагнаны ў Мінску Усебеларускі кангрэс, у сакавіку 1918 года паміж прадстаўнікамі Германіі і Савецкай Расіі ў Брэсце заключаны дагавор, які прадугледжваў падзел Беларусі, нібы «нічыйнай» тэрыторыі, паміж дзвюма дзяржавамі. Трэба было неадкладна прадэманстраваць сусветнай грамадскасці, што гэта зямля мае законнага гаспадара — і беларускія адраджэнцы, найперш актывісты Беларускай сацыялістычнай грамады, абвяшчаюць аб утварэнні новай незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. К. Душэўскі ўсёй душой падтрымлівае гэты крок і становіцца шчырым саўдзельнікам першых палітычных акцый маладой рэспублікі. Яму давялося быць дыпламатычным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі ў краінах Прыбалтыкі, а пасля сесіі Рады БНР у Мінску (снежань 1919 года) — дзяржаўным сакратаром БНР ва ўрадзе В. Ластоўскага. Актыўная беларуская дзейнасць К. Дуж-Душэўскага выклікала непрыязныя адносіны да яго з боку польскіх улад, на пачатку 1921 года яны арыштавалі яго і на некалькі тыдняў зняволілі ў Лукішскай турме ў Вільні.

Пасля вызвалення ён эмігрываў у суседнюю Літву і назаўсёды пасяліўся ў Каўнасе, закончыў там універсітэт і атрымаў спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Па яго праектах і пры непасрэдным удзеле ў Каўнасе, Панявежысе, Клайпедзе, Шаўляі і іншых гарадах Літвы было ўведзена нямала будынкаў культурнага і гаспадарчага прызначэння. Адраджэнцкай працы не пакінуў, але скіраваў яе пераважна ў рэчышча культурна-асветнай дзейнасці. Дзякуючы веданню моў (акрамя чатырох славянскіх — беларускай, украінскай, рускай і польскай, а таксама літоўскай, валодаў нямецкай, французскай, англійскай і партугальскай), пераклаў некалькі падручнікаў, прызначаных для беларускіх школ. Разам з В. Ластоўскім выдаваў часопіс «Крывіч», на пачатку 30-х гадоў рэдагаваў часопіс «Беларускі асяродак», выступаў з лекцыямі па радыё.

Якраз у гэты час, а менавіта ў 1934 годзе, напісаў К. Дуж-Душэўскі згаданую вышэй аўтабіяграфію з такой важнай для нас інфармацыяй пра абставіны ўзнікнення бела-чырвона-белага сцяга. Чытач можа задаць законнае пытанне: наколькі адпавядае гэта інфармацыя гістарычнай праўдзе, ці можам мы на падставе сведчання аднаго, тым больш зацікаўленага чалавека рабіць пэўныя высновы? Бясспрэчна, пацвярджэнне аўтарства Дуж-Душэўскага іншымі, незалежнымі крыніцамі было б не лішнім, і, магчыма, у будучым такія крыніцы знойдуцца. Але істотнай з'яўляецца і тое, што нідзе з дакладна ўстаноўленых на сённяшні дзень фактаў з гісторыі беларускай сімволікі і нацыянальна-вызваленчага руху не супярэчыць сцвярджэнню К. Душэўскага. Наўрад ці ёсць падставы сумнявацца ў яго шчырасці і пастой прычыне, што ў вачах літоўскага чытача (а менавіта яму прызначалася аўтабіяграфія, аб чым сведчыць мова дакумента) аўтарства эскіза беларускага сцяга не выглядала, напэўна ж, асабліва важкай заслугай і не магло прынесці грамадзяніну Літвы К. Дуж-Душэўскаму дадатковых палітычных ці службовых дывідэндаў, таму не было ніякай патрэбы грашыць супраць праўды.

Як далей склалася жыццё відавочнага творцы бела-чырвона-белага сцяга? Паводле звестак Л. Луцкевіча (гл. ЛіМ, 1991, 3 мая), пасля далучэння ў 1940 годзе Літвы да Савецкага Саюза К. Душэўскі стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій: быў арыштаваны і зняволены ў астрозе. Падчас захопу Каўнаса войскамі фашысцкай Германіі савецкія ўлады не паспелі вырашыць лёс зняволеных у адпаведнасці са сваімі задумамі, і Душэўскі апынуўся на волі. Аднак праз некаторы час за дапамогу антыфашыстам быў арыштаваны гітлераўцамі і накіраваны ў канцэнтрацыйны лагер. Пасля вайны вярнуўся дамоў, але неўзабаве яго чакаў новы арышт і зняволенне. Канчаткова вызвалены толькі пасля смерці Сталіна, у сярэдзіне 50-х гадоў.

Памёр К. С. Дуж-Душэўскі ў 1959 годзе.

МІНУЛІ ЧАСЫ забыцця і незаслужанага ганьбавання нацыянальнай сімволікі беларусаў. Сёння побач са старадаўняй «Пагоняй» — сведчаннем глыбіні нашых гістарычных вытокаў — як увасабленне неўміручасці і жыццядайнай сілы народа, яго нязгаснай маладосці, горда і ўрачыста лунае бела-чырвона-белы штандар, узняты на пачатку стагоддзя маладымі дужымі рукамі адраджэнцаў. Кожны з іх варты нашай удзячнай памяці.

**Станіслаў РУДОВІЧ,**
**навуковы рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», кандыдат гістарычных навук.**

# Экскаватарам па... гісторыі

**Як у Гродна знішчылі будынак, які павінен ахоўвацца дзяржавай**

Вуліца Тэлеграфная, 22. Яшчэ нядаўна па гэтаму адрасу размяшчаўся аднапавярховы будынак з мансардай, пабудаваны ў канцы мінулага стагоддзя. Сёння на гэтым месцы... яма, агароджаная бетоннымі плітамі. Што здарылася? Землетрасенне? Апоўзень? Дзякуй Богу, ніякіх прыродных катаклізмаў не было. А вось ад будаўнічага кааператыва «Стандарт» дому ўратавацца не ўдалося.

Зрэшты, яго кіраўнік М. Бязуб ніякай настальгіі па прычыне знікнення часцінкі нашай гісторыі, мяркуючы па ўсім, не адчувае. Маўляў, у гэтым доме літаральна ўсё згніло, ну ў чым яго каштоўнасць?

Іншага пункту гледжання прытрымліваецца начальнік упраўлення рэстаўрацыі Гродзенскага гарвыканкома А. Хамко:

— Пастановай урада рэспублікі гістарычны цэнтр нашага горада аб'яўлены помнікам гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння. Гэты статус датычыць кожнага будынка, які тут размяшчаецца, а адсюль і асобы рэжым іх выкарыстання. Ёсць праект рэгенерацыі гістарычнага цэнтра. Для кожнага будынка вызначана катэгорыя каштоўнасці — ад першай да шостай. У дома па вуліцы Тэлеграфнай, 22 была другая катэгорыя. Гэта значыць, што ў ім магчыма толькі ўнутраная перапланіроўка...

Але як жа гэтая перапланіроўка абярнулася поўным знішчэннем будынка? Што за «рэстаўратары» тут пастараліся? Адразу падкрэслім: ніякага дачынення да рэстаўрацыі «Стандарт» не мае. Гэта звычайны кааператыў па выкананню агульнабудаўнічых і рамонтных работ. Чаму ж менавіта на ім спыніла свой выбар малое прадпрыемства «Алеся» (створанае пры абласным таварыстве інвалідаў), якому ўлады дазволілі размясціць у гэтым будынку швейнае атэлье? Кіраўнік МП Б. Голад тлумачыць, што спачатку ён звярнуўся да спецыялістаў «Белрэстаўрацыі», але яны ў той час былі загружаны работай. А тут якраз трапіў пад руку «Стандарт». Паглядзелі кааператары праект і запэўнілі заказчыка, што ўсё, маўляў, зробяць найлепшым чынам. Заключылі кантракт.

Звярніце ўвагу на тое, хто гаспадарнічае ў гістарычным цэнтры горада і вырашае лёс помнікаў рэспубліканскага значэння. Не гарадскія ўлады і не спецыялісты-рэстаўратары, а нейкае малое прадпрыемства і адзін са шматлікіх кааператываў, якія і паняцця не маюць аб рэстаўрацыі і тым не менш самаўпэўнена бяруцца за гэтую адказную справу. Прычым самавольна, нават не атрымаўшы дазволу на правядзенне работ ад архітэктурнай службы.

Аперацыю па знішчэнню будынка «Стандарт» правёў так хутка, што не паспелі, як кажуць, агледзецца ні заказчык, ні гарадскія кантралюючыя органы.

— Я зусім выпадкова пачуў ад адной жанчыны аб тым, што здарылася на Тэлеграфнай,— расказвае начальнік упраўлення рэстаўрацыі гарвыканкома А. Хамко.— Кінуўся туды, а будынка ўжо няма.

Больш папулярна растлумачыў прычыну здарэння старшыня кааператыва Н. Бяззуб. Маўляў, пры капанні экскаватарам катлавана па сценах будынка пайшлі трэшчыны. Працаваць у такіх умовах было небяспечна і таму вырашылі поўнасцю разбурыць будынак, каб потым яго аднавіць (дарэчы, у афіцыяльным тлумачэнні фігуруе іншая версія: быццам будынак абваліўся ад парываў моцнага ветру).

Цяпер заказчык абвінавачвае падрадчыка ў тым, што ён, маўляў, у пагоні за нажывай пераацаніў свае магчымасці і заваліў справу, нават не спытаўшы дазволу на яе правядзенне. Н. Бяззуб, у сваю чаргу, віну за няўзгодненасць работ з архітэктурнай службай перакладвае на заказчыка. Бог ім суддзя. І закон, паколькі падрабязнасці гэтага здарэння цяпер высвятляе пракуратура.

**Барыс ПРАКОПЧЫК,**
**кар. «Звязды».**

# І пра «Памяць» трэба памятаць

**У маі 1991 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб выданні ў рэспубліцы Кніг Памяці». Чым выклікана прынятце такога рашэння ўрада?**

Прайшоў амаль год з дня выхаду пастановы. Што сёння канкрэтна зроблена ў рэспубліцы па яе выкананню?

У сістэме Міністэрства інфармацыі створаны рэспубліканскі арганізацыйна-метадычны цэнтр па выданню гісторыка-дакументальных хронік, які ўзначаліў вядомы беларускі драматург, пісьменнік і гісторык А. Петрашкевіч.

Створанаму цэнтру ўдалося арганізаваць і прыцягнуць да актыўнай дзейнасці многія дзяржаўныя, навуковыя і грамадскія структуры па падрыхтоўцы рукапісаў гісторыка-дакументальных хронік «Памяць».

Па-першае, распрацавана канцэпцыя шматтомнага выдання і структура кніг.

Па-другое, арганізацыйна-метадычным цэнтрам наладжаны цесныя сувязі і кантакты з архіўнымі ўстановамі, інстытутамі Акадэміі навук, асобнымі кафедрамі шэрагу вышэйшых навучальных устаноў, творчымі саюзамі рэспублікі, Сінодам беларускай праваслаўнай царквы і іншымі арганізацыямі і ўстановамі.

Разам з тым трэба прама сказаць, і гэта канстатавана ва ўрадавай пастанове, што ў многіх гарадах і раёнах работа па збору матэрыялаў і падрыхтоўцы рукапісаў Кніг Памяці вядзецца марудна. Выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў не надаюць належнай увагі гэтай важнай справе. Супрацоўнікі выдавецтваў не праяўляюць актыўнасці ў пошуках аўтараў, складальнікаў, у падрыхтоўцы рукапісаў кніг на дагаворных пачатках.

Каб карэнным чынам выправіць становішча з падрыхтоўкай рукапісаў і выданнем Кніг Памяці ў адпаведнасці з патрабаваннем пастановы Савета Міністраў, трэба як мага хутчэй пераадолець абыякавасць і неразуменне пэўнымі кіраўнікамі гарадоў і раёнаў значэння выдання гэтых хронік для адраджэння гістарычнай памяці народа, прыцягнуць да работы над стварэннем рукапісаў шырокае кола навукоўцаў, літаратараў, журналістаў, краязнаўцаў, настаўнікаў і выкладчыкаў гісторыі, супрацоўнікаў архіваў, музеяў, бібліятэк, ваенкаматаў, адкрыць у гарадах і раёнах спецыяльныя рахункі «Памяць», на якіх назапашваць сродкі як для аплаты пошукавых, складальніцкіх і рэдактарскіх работ, так і для аплаты друкавання выданняў. Адны энтузіясты на паўпрафесіянальным ці паўаматарскім узроўні справу выдання шматтомніка не асіляць. Гэта справа дзяржаўная і павінна быць зроблена на дзяржаўным узроўні. Таму ствараецца рэспубліканская камісія па выданню ў рэспубліцы Кніг Памяці. Яе ўзначаліць намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук.

**В. ХАРАВЕЦ,**
**вядучы спецыяліст упраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Кіраўніцтва спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# БЕСПРАЦОЎНЫ №...,

**7 лютага г. г. у «Звяздзе» быў апублікаваны матэрыял пад назвай «Скандал у супермаркеце», які меў адчувальны грамадскі рэзананс. Выпадак там апісваўся сапраўды неардынарны: падчас рэйду групы рабочага кантролю Мінскай вобласці ў кабінеце дырэктара магазіна № 12 Фрунзенскага райхарчгандлю г. Мінска і ў падсобных памяшканнях была знойдзена вялікая колькасць рознага прамтаварнага дэфіцыту, цыгарэт і гарэлкі, а ў самога дырэктара А. Рахманенкі ў «дыпламаце», кішэнях і ў нейкай кардоннай скрыньцы — больш за 280 тысяч непагашаных купонаў.**

## альбо Пасля скандалу ў супермаркеце

Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ПРАГНОЗЫ адносна лёсу злоўленага за руку махляра рабіліся розныя. Самыя наіўныя і законапаслухмяныя грамадзяне ў думках ужо бачылі яго за турэмнымі кратамі (купоны ж, сотні тысяч!), найбольш дасведчаныя і практычныя наадварот — упэўнена сцвярджалі, быццам прадпрымальны дырэктар выйдзе сухім з вады.

Як высветлілася, памыляліся і адны, і другія.

Да крымінальнай адказнасці Аляксандра Мікалаевіча Рахманенку не прыцягнулі, затое з работы звольнілі — загадам па Фрунзенскаму райхарчгандлю г. Мінска № 16 ад 10.02.92 года па пункту 1 артыкула 254 Кодэкса законаў аб працы РБ. З фармулёўкай: «...за грубае парушэнне службовых абавязкаў і нізкі ўзровень выхаваўчай работы ў калектыве магазіна». Пра выхаваўчую работу, лічу, дарэмна запісалі — як мог, так і выхоўваў. У любым выпадку, дабіцца ўзроўню выхавання вышэйшага за свой уласны ён быў не ў стане. І наогул — першы пункт артыкула 254 гучыць як «аднаразовае парушэнне». Логіка цудоўная: махлюй колькі хочаш, не злоўлены — не злодзей. А калі нарэшце злавілі — «аднаразовае парушэнне». Але хоць не «па ўласнаму жаданню» пазбавіўся Рахманенка сваёй пасады. Дзякуй і на тым.

Мяркуючы па ўсім, планаваў Аляксандр Мікалаевіч атрымаць у якасці найгоршага пакарання якую-небудзь вымову, няхай сабе і самую строгую, а тут — такая непрыемнасць. Яшчэ і суддзя М. Ярчынская з нарсуда Фрунзенскага раёна аштрафавала пакутніка на 2.000 рублёў за ўтойванне цыгарэт і гарэлкі. Досыць прыкра для такога паважанага чалавека, якім ён сябе (у гэтым няма сумненняў) лічыць, нават прымаючы пад увагу сціпласць сумы штрафу на цяперашнім часе.

Тыя, хто быў упэўнены, што Рахманенку чакае нешта жудаснае, паўтараю, — наіўныя людзі. Бо ў выніку яго «прадпрымальніцкіх» дзеянняў страт дзяржава не панесла. Усе тыя горы дэфіцыту ён сумленна купіў (адваротнага не даказана), а тое, што пры гэтым пацярпелі інтарэсы іншых, «простых» пакупнікоў, — справа другарадная. Закон пакуль што найперш абараняе інтарэсы дзяржавы, а не яе грамадзян. Вось каб Аляксандра Мікалаевіча прыхапілі з таварам дзе-небудзь на «Дынама», ці на граніцы з Польшчай, куды гэты тавар прызначаўся...

Дарэчы, аб Польшчы. З частымі ваяжамі Рахманенкі ў гэтую братнюю краіну старшы оперупаўнаважаны аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Фрунзенскага РАУС Пётр Шкуроў звязваў зусім рэальную надзею «зачапіць» яго на крадзяжы дзяржаўных грошай. Справа ў тым, што дакументальна пацверджаныя вандроўкі Аляксандра Мікалаевіча не заўсёды прыпадалі на час яго законнага адпачынку ці на выхадныя дні. Але, як высветліў Шкуроў, нягледзячы на тое, што час ад часу Рахманенка бавіў свой рабочы час у асабістых паездках за мяжой, у табелі яму старанна маляваліся «васьмёркі». Напрыклад, 25 і 27 кастрычніка 1990 г., 3 снежня таго ж года, 11 ліпеня 1991 года...

Апрача таго, у паперах А. Рахманенкі адшукаліся і падробленыя камандзіровачныя пасведчанні. У камандзіровачным пасведчанні кааператыва «Мінск-АБС» Рахманенка быў названы галоўным інжынерам і здзяйсняў службовую паездку ў польскі горад Быдгашч. А побач ляжалі чыстыя бланкі кааператыва «Поліпласт» і аптоварознічнага плодаагароднінннага камбіната з усімі патрэбнымі пячаткамі. Запісвай сябе хоць дырэктарам, хоць сакратаром-машыністкай і кацi за мяжу. З размахам наладзіў сваю міжнародную гандлёвую дзейнасць сціплы дырэктар гастранома.

Але крымінальнай справы не атрымалася. Хутчэй за ўсё з-за мізэрнага службовага акладу А. Рахманенкі. Бо высветлілася, што сума грошай, незаконна атрыманых за неадпрацаваныя дні, складае толькі 76 руб. 17 кап. А гэта, згадзіцеся, не тая лічба, якая абяцае справе бліскучыя судовыя перспектывы, нават пры ўмове «ліпавых» камандзіровак. Таму ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па арт. 6 і 111 КПК РБ Шкуроў адмовіў. Праўда, перадаў справу ў таварыскі суд. Калі па месцы жыхарства Аляксандра Мікалаевіча не паставяцца да гэтага фармальна, цікавыя пытанні чакаюць былога дырэктара.

Дапісваю я радкі пра таварыскі суд і добра ўяўляю абурэнне на тварах нашых законапаслухмяных чытачоў. Нават чую здзіўленае: што, і гэта ўсё? А як жа сотні тысяч купонаў?! Ды гэта... Ды за гэта... Ну, ведаеце...

А ці ведаеце, паважаныя чытачы, што за махінацыі з купонамі А. Рахманенка быў пакараны цяжэй за ўсіх падобных на яго «прадпрымальнікаў»? Не так даўно ў рэдакцыю «Звязды» з Саўміна перадалі цікавы дакумент — ліст намесніка міністра гандлю РБ Т. Крывені на імя першага намесніка Старшыні Саўміна М. Мясніковіча, у якім расказваецца аб мерах адміністрацыйнай і матэрыяльнай адказнасці, прымененых да парушальнікаў Інструкцыі аб парадку рэалізацыі тавараў па картках спажыўца (купонах).

Дык вось, загадам па Маладзечанскаму гархарчгандлю ад 17.02.92 г. № 27 дырэктарам магазінаў №№ 8, 9, 11, 25 Радзюкевіч, Сцяпанавай, Ермалінскай, Шкуратавай аб'яўлены вымовы, і яны пазбаўлены прэміяльнай даплаты за студзень г. г. на 100 працэнтаў. Галоўнаму бухгалтару гандлю Сідаровічу за адсутнасць належнай арганізацыйнай работы і кантролю таксама аб'яўлена вымова.

Рашэннем савета ўпраўлення гандлю Мінгарвыканкома ад 13.02.92 г. кіраўніцтву магазінаў № 39 Партызанскага райхарчгандлю, № 15 Маскоўскага, №№ 6 і 8 Фрунзенскага №№ 8 і 21 Цэнтральнага, № 8 Мінгасгандлю і галоўнаму бухгалтару Мінгасгандлю Санкевіч — вымовы.

Загадам дырэктара Першамайскага райхарчгандлю ад 11.02.92 № 33 прыцягнуты да адказнасці службовыя асобы магазінаў №№ 2, 13, 19, 22, у тым ліку дырэктару магазіна № 2 Казаку аб'яўлена строгая вымова, загадчыку магазіна № 13 Сыцько — вымова, і яны пазбаўлены ўсіх прэміяльных даплат за люты на 100 працэнтаў.

Загадам па прамгандлю № 1 г. Мінска ад 20.02.92 г. № 10 дырэктару магазіна № 19 Міронаву і загадчыку секцыі Малюковай аб'яўлены строгія вымовы.

Загадам па прамгандлю № 2 г. Мінска ад 21.02.92 г. № 13 загадчыку секцыі магазіна № 31 Прышчэпавай аб'яўлена строгая вымова і яна пазбаўлена на 100 працэнтаў прэміяльных даплат за люты.

Упраўленнем гандлю Гродзенскага аблвыканкома аб'яўлены заўвагі і накладзены штрафы ў размеры 100 рублёў на работнікаў магазінаў № 25 гарпрамгандлю, №№ 54, 20, 27 гархарчгандлю.

Як бачыце — вымовы, дробныя штрафы, заўвагі. Звальнення няма ніводнага. Ці не таму строгую вымову атрымаў ад упраўлення гандлю дырэктар Фрунзенскага райхарчгандлю М. Пучыла, што, на нечую думку, перастараўся, звальняючы нашага героя?

Так што справа не ў празмерна мяккім падыходзе да асобы Аляксандра Мікалаевіча Рахманенкі (наадварот — гэта прыклад таго, як вопытны гандлёвы работнік, што ўжо лічыў сябе «непатапляльным», займеў сур'ёзныя непрыемнасці. Хай іншыя задумаюцца), а ў надзвычай легкадумных адносінах нашых улад да ўведзенай імі ж купоннай сістэмы. Шырока абвясціўшы купоны паратункам ад шэрагу эканамічных праблем, улады зрабілі ўсё для таго, каб прадэманстраваць, што іх тварэнне — не больш чым папера. І гэта ўдалося — з чым іх і можна павіншаваць.

Па-першае, купоны былі зроблены аднаразовыя—з грувасткай практыкай пагашэння і інкасацыі. Ні аб якім належным уліку тут і гаворкі не магло быць, затое магчымасці для злоўжыванняў — бязмежныя. Адзін служачы банка неяк прызнаўся, што добра, калі яны ўсе мяшкі з купонамі, што паступаюць з магазінаў праз райгандлі, падлічаць, а колькі купонаў у тых мяшках, — ліха ведае. І навошта лічыць тое, што ўсё адно давядзецца знішчаць? Працы шмат, карысці ніякай. Тым больш, што адчувальных карных санкцый за непавагу да купонаў не прадугледжана.

Па-другое, гандлю быў фактычна дадзены дазвол купонамі маніпуліраваць. Замест таго, каб захаваць разлік у купонах на ўвесь асартымент дзяржаўнага гандлю без выключэнняў, пачалі падзяляць тавар на купонны і бескупонны ў залежнасці ад попыту, тэрмінаў рэалізацыі і асабістых меркаванняў гандляроў. Сёння па купонах, заўтра без купонаў. Дзе там за ўсім усочыш.

Бяда ў тым, што купоны — не грошы, і іх яны ніколі не заменяць. А цану на тавар пакуль што, у асноўным, дыктуе вытворца, і яму напляваць, па купонах ці без іх будзе прададзены тавар. З купонаў ён нічога не мае, затое ў высокай цане ў рублях кроўна зацікаўлены. Таму, калі тавар не раскупляецца, на яго не спяшаюцца знізіць цану, як зрабілі б ва ўсім астатнім свеце. Яго спачатку пускаюць у бескупонны продаж — а раптам хоць прыезджыя разбяруць? А калі і прыезджых аказваецца недастаткова, вытворцы вымольваюць ва ўрада дазвол на вываз сваёй прадукцыі за межы рэспублікі, у тыя рэгіёны, дзе высокая цана пакупніка не вельмі засмучае. Такая вось «абарона спажывецкага рынку».

У выніку атрымліваецца, што амаль увесь варты ўвагі тавар рэалізуецца без купонаў, а свае купоны нам прапануюць, у асноўным, аддаць за мяса, смятану, сыр і каўбасу (вараную і сыравэнджаную). У каго наконт гэтых прадуктаў патрэбы сціплыя, той мае вялікі стос рознакаляровых купонных аркушаў. На Камароўцы іх ужо амаль не купляюць, і хутка яны будуць таннейшыя за аркуш чыстай паперы, якая стала куды большым дэфіцытам. Магчыма, які-небудзь наступны матэрыял я напішу менавіта на купонах — вядома, на адваротным, чыстым баку. Гэта тым больш верагодна, што ў прэсе ўжо было аб'яўлена пра хуткую замену аднаразовых купонаў на шматразовыя — прыгожыя, з рознымі сімпатычнымі жывёлінамі.

Але ў тое, што ад чарговага новаўвядзення будзе нейкая карысць, веры малавата. Бо калі першую, акрэсленую вышэй праблему шматразовыя купоны здымуць (лічыць іх будуць як належыць), з другой усё застанецца па-ранейшаму. Ужо даюцца тлумачэнні наконт таго, што разлік у новых купонах будзе весціся толькі за вострадэфіцытны тавар. Мы ўпарта не жадаем вучыцца не тое што на чужых памылках, але нават на сваіх.

А Аляксандр Мікалаевіч Рахманенка пакуль беспрацоўны. Я не ведаю, ці наведваў ён службу занятасці, ці рэгістраваўся, і калі так, то пад якім нумарам. Затое чуў, быццам часта яго бачаць у родным магазіне № 12. Настальгія туды цягне, альбо яшчэ што? А можа прыкідвае, як бы гэта купіць з вантробамі свой «супермаркет», калі пачнуць прыватызаваць гандаль?

І прыватызуе. І будзе працаваць, як прызвычаіўся, абслугоўваючы найперш сябе і сяброў. І блізка не дапусціць на тэрыторыю сваёй уласнасці ніякіх кантралёраў з карэспандэнтамі, толькі прадстаўнікоў падатковай, санітарнай і пажарнай інспекцый, і нікога больш — у адпаведнасці з законам! І будзем мы па-ранейшаму стаяць да яго ў чарзе, і браць, «што даюць». Абавязкова будзем.

Калі, вядома, хоць на хвілінку паверым у тое, быццам такія, як Рахманенка, і ёсць тыя доўгачаканыя камерсанты, што накормяць нас і выратуюць.

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# Жадаем служыць сваёй Айчыне

14 сакавіка г. г. у «Звяздзе» быў надрукаваны артыкул падпалкоўніка Аляксандра Кулеша, у якім закранаецца надзённая тэма ваеннай прысягі. Гэтае пытанне хвалюе не толькі патрыятычна настроеных вайскоўцаў, але і многіх воінаў запасу. У свой час мы таксама прысягалі на вернасць СССР і яго дзяржаўным інстытутам. Зараз на палітычнай карце свету такой краіны няма. На яе месцы ўтварылася 15 незалежных краін. Перасталі фактычна існаваць і адзіныя Узброеныя Сілы.

У войску, якое размешчана на тэрыторыі нашай рэспублікі, стварылася парадаксальная сітуацыя. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь апошняга прызыву праходзяць службу на сваёй Бацькаўшчыне і прыведзены да ваеннай прысягі на вернасць сваёй Айчыне, беларускаму народу і яго ўраду. У той жа час афіцэры і прапаршчыкі працягваюць служыць неіснуючай дзяржаве. Нават у сне цяжка такое ўявіць, але, на жаль, гэта рэальны факт. Не трэба быць буйным ваенным спецыялістам ці палітыкам, каб зразумець усю недарэчнасць і небяспечнасць такой сітуацыі. Хацелася б, каб гэта добра ўсвядомілі і прыхільнікі захавання адзінай Савецкай Арміі на тэрыторыі паўнапраўнага члена сусветнай супольнасці.

Мы ўступілі ў адказнейшы перыяд сваёй гісторыі. Тое, пра што марылі і змагаліся лепшыя сыны нашай Бацькаўшчыны, здзейснілася. Беларусь стала незалежнай. Настаў этап адбудовы яе дзяржаўнасці. Важнейшым яе інструментам з'яўляецца армія. І таму вельмі важна, каб у сціслыя тэрміны Вярхоўны Савет задаволіў жаданне многіх вайскоўцаў, што праходзяць службу ў Беларускай ваеннай акрузе і за яе межамі, а таксама ўсіх воінаў запасу прыняць ваенную прысягу на вернасць беларускай дзяржаве, яе народу і ўраду. Інакш можа стацца так, што калі не прысягнеш сваёй Бацькаўшчыне, будзеш вымушаны прысягнуць чужой дзяржаве. Трэцяга тут не дадзена.

**Капітан запасу КРУК, радавы запасу Алег ДЗЯРНОВІЧ, малодшы сяржант запасу Юрась БОХАН, радавы запасу Міхась ГРЫГОР'ЕЎ, радавы запасу Васіль ТАЛСТОЙ, сяржант запасу Алег ЮУ, ст. лейт. запасу Міхась ЧАРНЯЎСКІ, ст. лейт. запасу Мікола КРЫВАЛЬЦЭВІЧ, ст. лейт. запасу Валеры ШАБЛЮК, ст. лейт. запасу Андрэй МЯЦЕЛЬСКІ, ст. лейт. запасу Вадзім ШАДЫРА, лейт. запасу Сяргей ТАРАСАЎ, сяржант запасу Вячаслаў НАСЕВІЧ, ст. лейт. запасу Алесь ЖЛУКТА.**
**г. Мінск.**

# РОЗГАЛАС

## ПАЛІЎНЫ ГОЛАД СЁННЯ НАЙБОЛЬШ ЦЯЖКІ

Аўтазаправачная станцыя № 7 аб'яднання «Белаўтазапраўка» ў Мінску. Доўгі рознакаляровы «хвост» цягнецца амаль да Маскоўскай шашы. Даўжыня яго складае не менш двух соцень метраў, а колькасць «Жыгулёў», «Масквічоў» ды «Запарожцаў» набліжаецца да 90. Гэта — «прыватнікі», побач жа цягнецца і другая чарга — праўда, не такая доўгая і менш разнастайная па сваёй афарбоўцы — дзяржаўны аўтатранспарт.

Кажуць, папера сцерпіць усё. Але і яна, відаць, не змагла б вынесці тыя словы, якія давялося пачуць на тэрыторыі станцыі.

Вадзіцель блакітнага «Жыгуля» Вадзім Маркаў стаіць ужо паўтары гадзіны, а з месца не зрушыўся ні на метр.

— Бензіну няма, і невядома калі будзе,— кажа ён.— Толькі што прыехаў адзін бензавоз, але каму будуць адпускаць гэтае паліва? Добра, што ўчора пашанцавала: на Крапоткіна «ўхапіў» 20 літраў семдзесят шостага. Сёння, відаць, не дастаімся. Аператары пазачыняліся ў гэтых будках, не тлумачаць нічога, вось людзі і нервуюцца, злуюцца, клянуць усіх і ўсё.

І сапраўды, дабіцца нейкай яснасці мы, як ні стараліся, не змаглі. Проста не было ў каго спытаць. Начальства, як заўсёды ў такія моманты, і блізка не з'яўляецца. Праўда, прыбіральшчыца, якая падмятала тэрыторыю, сказала, што ў сем гадзін раніцы быў брыгадзір, даваў нейкія ўказанні. Больш яна нікога не бачыла.

Тры аператары, якія былі на дзяжурстве, таксама сітуацыі не праяснілі. Ды і дабрацца да іх не так проста. Усе дзверы зачынены, а да акенца не праштурхнуцца. Адпускалі бензін толькі вадзіцелям спецмашын (міліцыі, «хуткай дапамозе») і аварыйнага транспарту. «Легкавушкам» па 20 літраў, грузавым — 40. Быць з палівам астатнім ці не, залежала ад спрыту языка іх гаспадароў. Галоўны ветурач Мінска выпрасіў, напрыклад, з дапамогай грунтоўнага чырвонага пасведчання 10 літраў, вадзіцель машыны сярэдняй школы міліцыі — таксама, а вось шафёр аўтобуса не змог нават выехаць за межы АЗС...

Адсутнасць паліва ў гэтыя сакавіцкія дні можна растлумачыць толькі адным словам — ажыятаж. Прайшло ўжо паведамленне, што з красавіка цэны на энерганосьбіты і паліва рэзка ўзрастуць. Калі цяпер літр бензіну з актанавай лічбай 76 каштуе 1 рубель 20 капеек, то праз пару тыдняў, магчыма, будзе каштаваць 15—17 рублёў. Такія ходзяць чуткі. Вось і кінуліся людзі рабіць запасы. Толькі ці многа тут нарыхтуеш?

Між тым, як сказаў нам начальнік Упраўлення рэсурсаў, балансаў, аптовага гандлю і паставак нафтапрадуктаў Дзяржкамнафтапрадукта РБ Мікалай Рамашка, у гэтыя дні на АЗС даецца тая ж самая норма бензіну, што і ў мінулым годзе або ў студзені і лютым гэтага. Так што рэсурсаў у нас дастаткова, і праблемы тут няма ніякай. Людзі самі стварылі ажыятаж і цяпер расплачваюцца за гэта.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**
**Фота Аляксандра КУШНЕРА.**

# Аб асновах арганізацыі мытнай службы Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ектаў інтэлектуальнай уласнасці і іншых прадметаў, а таксама аказанне садзейнічання ў барацьбе з міжнародным тэрарызмам і спыненне незаконнага ўмяшання ў дзейнасць міжнароднай грамадзянскай авіяцыі;

забеспячэнне выканання заканадаўства аб мытнай справе;

эфектыўнае прымяненне мытна-тарыфнага механізму пры перамяшчэнні праз мытную мяжу тавараў і прадметаў, дазвальняльнага парадку ўвозу і вывазу тавараў і прадметаў, унясенне ў бюджэт мытнай пошліны і мытных збораў;

арганізацыя і ўдасканаленне мытнага кантролю, стварэнне ўмоў, якія садзейнічалі б паскарэнню тавараабароту і пасажыраабароту праз мытную мяжу;

вядзенне мытнай статыстыкі;

забеспячэнне інфармаванасці дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і грамадзян па пытаннях мытнай справы;

садзейнічанне развіццю знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь, стварэнне і забеспячэнне спрыяльнага мытнага рэжыму для выканання міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь у галіне гандлёва-эканамічных, валютна-фінансавых, навукова-тэхнічных, гуманітарных і іншых адносін з замежнымі краінамі;

ажыццяўленне супрацоўніцтва з мытнымі і іншымі кампетэнтнымі органамі замежных дзяржаў, міжнароднымі арганізацыямі, якія займаюцца пытаннямі мытнай справы.

**Артыкул 9.**

Мытныя органы ў сваёй дзейнасці кіруюцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, дадзеным Законам і іншым заканадаўствам, якое дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10.**

Службовымі асобамі мытнай службы могуць быць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.

Службовым асобам мытнай службы прысвойваюцца персанальныя званні ў парадку, які ўстанаўлівае Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Для службовых асоб мытнай службы ўстанаўліваецца нашэнне форменнага адзення. Форма адзення вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, а правілы яго нашэння — Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь.

Службовыя асобы мытнай службы маюць права нашэння і прымянення агнястрэльнай зброі. Парадак нашэння і прымянення агнястрэльнай зброі вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11.**

Работнікі мытнай службы нясуць дысцыплінарную адказнасць у адпаведнасці са Статутам мытнай службы, які зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Работнікі мытнай службы знаходзяцца пад асобай абаронай дзяржавы. У выпадку замаху на гонар і годнасць работнікаў мытнай службы вінаватыя асобы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці.

Сацыяльная абарона работнікаў мытнай службы гарантуецца дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 12.**

Мытныя органы Рэспублікі Беларусь у мэтах вырашэння задач мытнай справы ўзаемадзейнічаюць з іншымі дзяржаўнымі органамі, у тым ліку пагранічнымі, органамі дзяржаўнай бяспекі, праваахоўнымі органамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі, грамадскімі аб'яднаннямі і грамадзянамі.

**Артыкул 13.**

Мытнымі органамі Рэспублікі Беларусь пры ажыццяўленні мытнага кантролю не дапускаюцца прычыненне іншым дзяржаўным органам, прадпрыемствам, арганізацыям, установам і грамадзянам урону, прыніжэнне гонару і годнасці грамадзян і ўчыненне іншых неправамерных дзеянняў.

Мытныя органы і іх службовыя асобы, якія дапусцілі неправамерныя дзеянні ў адносінах да грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Урон, прычынены грамадзяніну, прадпрыемству, арганізацыі і ўстанове неправамернымі дзеяннямі мытных органаў Рэспублікі Беларусь і іх службовых асоб пры выкананні гэтымі асобамі службовых абавязкаў, пакрываецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 14.**

Скаргі на неправамерныя дзеянні мытных органаў Рэспублікі Беларусь і іх службовых асоб, якія парушылі правы грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, падаюцца і разглядаюцца ў парадку, устаноўленым дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 15.**

Рэспубліка Беларусь можа ўтвараць мытныя саюзы з іншымі суверэннымі дзяржавамі, прымаць удзел у рабоце міждзяржаўных органаў і міжнародных арганізацый па пытаннях мытнай справы.

**Артыкул 16.**

Рэспубліка Беларусь выконвае абавязацельствы, якія вынікаюць з яе міжнародных дагавораў. Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў дадзеным Законе і іншых заканадаўчых актах Рэспублікі Беларусь, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах арганізацыі мытнай службы Рэспублікі Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асновах арганізацыі мытнай службы ў Рэспубліцы Беларусь» з дня яго прыняцця.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 чэрвеня 1992 года:

распрацаваць і прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб парадку нашэння і прымянення агнястрэльнай зброі работнікамі мытнай службы Рэспублікі Беларусь;

распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным мытным камітэце Рэспублікі Беларусь, Статут мытнай службы Рэспублікі Беларусь;

распрацаваць і прадставіць у Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Палажэння аб апазнавальных знаку і сцягу мытных органаў Рэспублікі Беларусь;

прадставіць у Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы аб парадку прысваення службовым асобам мытнай службы Рэспублікі Беларусь персанальных званняў;

распрацаваць меры абароны правоў і сацыяльных гарантый работнікаў мытнай службы Рэспублікі Беларусь;

да 15 мая зацвердзіць варыянт зімовага і летняга форменнага адзення і да 1 лістапада 1992 года забяспечыць ім работнікаў мытнай службы Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

13 сакавіка 1992 г. г. Мінск.

**Дадатак да пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 сакавіка 1992 г.**

# Канцэпцыя мытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 20 верасня 1991 г. № 1101-XII «Аб мытнай службе Рэспублікі Беларусь» і карэнныя пераўтварэнні ў рэспубліцы ў сувязі з аб'яўленнем эканамічнага і палітычнага суверэнітэту патрабуюць распрацоўкі новых падыходаў да вызначэння месца, ролі, прававой і іншай арганізацыі мытнай справы. Гэта канцэпцыя мае на мэце закласці на аснове аналізу сутнасці і асноўных прынцыпаў арганізацыі мытнай сістэмы, магчымых варыянтаў супрацоўніцтва дзяржаў палітыка-эканамічную, арганізацыйную і прававую аснову развіцця мытнай справы ў рэспубліцы на сучасным этапе.

З улікам перадумоў, існуючых рэалій і вопыту дзяржаў Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва ўрад лічыць мэтазгодным ажыццяўляць развіццё мытнай справы па наступных напрамках.

Перш за ўсё для забеспячэння непасрэднай рэалізацыі мытнай палітыкі неабходна паскорыць фарміраванне сістэмы нацыянальнай дзяржаўнай мытнай службы, якая б уключала:

Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь;
рэгіянальныя мытні;
мытні;
мытныя пасты.

Уяўляецца мэтазгодным ускласці на мытную службу выкананне наступных галоўных задач:

абарона эканамічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, барацьба з кантрабандай і іншымі парушэннямі мытных правіл, спыненне незаконнага абароту наркатычных сродкаў, зброі, прадметаў культурнай і гістарычнай спадчыны Беларусі, аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці і іншых прадметаў, а таксама аказанне садзейнічання ў барацьбе з міжнародным тэрарызмам і спыненне незаконнага ўмяшання ў дзейнасць міжнароднай грамадзянскай авіяцыі;

забеспячэнне выканання заканадаўства аб мытнай справе, арганізацыя і ўдасканаленне мытнага кантролю, стварэнне ўмоў, якія б садзейнічалі паскарэнню тавараабароту і пасажыраабароту праз мытную мяжу;

эфектыўнае прымяненне мытна-тарыфнага механізму пры перамяшчэнні праз мытную мяжу тавараў і прадметаў, дазвальняльнага парадку ўвозу і вывазу тавараў і прадметаў, унясенне ў бюджэт мытнай пошліны і мытных збораў;

вядзенне мытнай статыстыкі, забеспячэнне інфармаванасці дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і грамадзян па пытаннях мытнай справы;

садзейнічанне развіццю знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь, стварэнне і забеспячэнне спрыяльнага мытнага рэжыму для выканання міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь у галіне гандлёва-эканамічных, валютна-фінансавых, навукова-тэхнічных, гуманітарных і іншых адносін з замежнымі краінамі;

ажыццяўленне супрацоўніцтва з мытнымі і іншымі кампетэнтнымі органамі замежных дзяржаў, міжнароднымі арганізацыямі, якія займаюцца пытаннямі мытнай справы.

Фарміраванне і функцыяніраванне сістэмы мытных органаў рэспублікі мяркуецца забяспечыць у адпаведнасці з адзінай мытнай палітыкай рэспублікі, агульнапрынятымі ў міжнароднай практыцы нормамі і стандартамі. Гэта павінна знайсці адлюстраванне ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь па пытаннях мытнай справы.

Рэспубліка Беларусь можа ўтварыць мытныя саюзы з іншымі суверэннымі дзяржавамі, прымаць удзел у рабоце міждзяржаўных органаў і міжнародных арганізацый па пытаннях мытнай справы. Для гэтага неабходна ажыццявіць практычныя меры па далейшаму развіццю адносін у першую чаргу з дзяржавамі, з якімі Беларусь мяжуе ці мае агульную эканамічную прастору, а таксама іншымі дзяржавамі ў галіне мытнай палітыкі.

Такі падыход да арганізацыі мытнай справы на гэтым этапе ўяўляецца найбольш мэтазгодным у сучасных умовах, паколькі адасабленне мытнай службы рэспублікі запатрабуе стварэння суцэльнай мытнай мяжы вакол тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а значыць, вялікіх капітальных укладанняў на яе ўладкаванне, значна ўскладніць рух транспартных сродкаў, перамяшчэнне тавараў і грамадзян праз тэрыторыю іншых суверэнных дзяржаў.

Даходы ад спагнання мытных пошлін і падаткаў, а таксама мытныя зборы, сродкі, атрыманыя ад рэалізацыі маёмасці, перададзенай ва ўласнасць дзяржавы на аснове рашэнняў мытных органаў і судоў (суддзяў) па справах аб кантрабандзе і парушэннях мытных правіл, сумы мытных пошлін, якія спаганяюцца ў негандлёвым абароце, і іншыя сродкі мытных органаў накіроўваюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з прыняццем прыбалтыйскімі дзяржавамі ў аднабаковым парадку рашэнняў аб разгортванні мытнай інфраструктуры на адміністрацыйна-тэрытарыяльнай мяжы з нашай Рэспублікай Беларусь таксама прыступіла да ўсталявання мытнай мяжы з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі. Па гэтаму пытанню прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Як паказваюць разлікі, рэалізацыя гэтых мер патрабуе значных фінансавых і матэрыяльных затрат. Так, напрыклад, для ўпарадкавання 700-кіламетровай мытнай мяжы з названымі дзяржавамі толькі па часовай схеме на 1992 год патрабуюцца пэўныя капітальныя ўкладанні, а таксама сродкі на ўтрыманне дадатковай колькасці работнікаў (550 чалавек), што складзе каля 95 млн. рублёў. На будаўніцтва і ўтрыманне стацыянарнай мытнай інфраструктуры на гэтым участку мяжы запатрабуецца з бюджэту ў 4 разы больш сродкаў (уся адміністрацыйна - тэрытарыяльная мяжа вакол тэрыторыі Рэспублікі Беларусь складае 2,5 тыс. км). Таму, побач з падпісаннем пагаднення паміж дзяржавамі — членамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў было б мэтазгодным ажыццявіць перагаворы і падпісаць пагадненні па пытаннях супрацоўніцтва ў галіне мытнай справы з прыбалтыйскімі рэспублікамі.

Развіццё рынкавых адносін і знешнеэканамічных сувязей стымулюе інтэнсіўнае павелічэнне пасажыраабароту і тавараабароту на мяжы з Польшчай, што патрабуе заключэння пагаднення з польскім бокам па адкрыццю дадатковых пунктаў пропуску для міжнароднага транспарту, чыгуначных і аўтобусных маршрутаў, спрашчэння пашпартнага і мытнага кантролю, вырашэння другіх пытанняў а таксама ажыццяўлення іншых мер па павелічэнню і паскарэнню пропуску грузаў і пасажыраў праз мяжу.

Правядзенне гібкай і ўзгодненай мытнай палітыкі на гэтым этапе садзейнічала б скарачэнню адцягнення сродкаў з бюджэту і стабілізацыі эканомікі рэспублікі ў цэлым. Такім чынам, у мэтах забеспячэння выканання задач, якія вынікаюць з дадзенай канцэпцыі, абароны дзяржаўных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, гарантый самастойнага функцыяніравання эканомікі ўрад лічыць неабходным далейшае развіццё і ўмацаванне сістэмы нацыянальных мытных органаў і іх інфраструктуры, стварэнне нарматыўна - прававой базы для ажыццяўлення імі сваёй дзейнасці.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## «БІ-БІ-СІ»

● **Апазіцыйная дэмакратычная партыя Албаніі набрала на прайшоўшых выбарах у парламент дзве трэці галасоў. Гэта — больш чым пераканаўчая перамога над кіруючай да гэтага часу партыяй сацыялістаў — былых камуністаў Албаніі. У краіне наступае сапраўдны росквіт дэмакратыі пасля больш чым 40-гадовага праўлення камуністаў. Лідэры апазіцыйнай дэмакратычнай партыі паабяцалі, што не дапусцяць праследаванняў былых кіраўнікоў. Тысячы жыхароў Цiраны святкуюць вынікі выбараў на шматлікіх мітынгах і маніфестацыях. Албанія стала апошнім аплотам камунізму ў Еўропе.**

● Зноў аднавіліся сутыкненні ў Босніі і Герцагавіне. Сіламі мусульман захоплены паліцэйскі ўчастак і фабрыка на ўсходзе рэспублікі. А ўзброеныя атрады сербаў занялі тэлестанцыю. Кіраўнікі сербаў заявілі, што калі не будзе ўстаноўлены мір, яны звернуцца да народа з заклікам узяцца за зброю. Радыё Сараева паведаміла, што да горада накіроўваюцца атрады міністэрства ўнутраных спраў і падраздзяленні югаслаўскай арміі. Паступаюць паведамленні аб аднаўленні агню і ў Харватыі.

● **Еўрапейская супольнасць заявіла, што збіраецца прызнаць незалежнасць Грузіі, якая атрымае гэта прызнанне апошняй з былых рэспублік Саюза ССР. У заяве супольнасці, апублікаванай у Лісабоне, гаворыцца, што Грузія пагадзілася прыняць прапановы яе, выкладзеныя ў снежні мінулага года. У пісьме, накіраваным у Еўрапейскую супольнасць, кіраўнік Грузіі Эдуард Шэварднадзе запэўніў еўрапейскія краіны, што Грузія будзе захоўваць законнасць, дэмакратычны парадак і правы чалавека. Ён таксама гарантаваў захаванне правоў нацыянальных меншасцей Грузіі, засведчыў яе імкненне да раззбраення.**

● Аб прызнанні незалежнасці Грузіі заявіла і Вялікабрытанія. Прэм'ер-міністр Джон Мейджэр накіраваў старшыні Дзяржсавета Грузіі Эдуарду Шэварднадзе пасланне з прапановай усталявіць дыпламатычныя адносіны паміж дзвюма краінамі.

● **Паступілі звесткі аб новым абстрэле вёсак на граніцы Нагорнага Карабаха. Азербайджанцы абстралялі тры вёскі, забіўшы пры гэтым адну жанчыну і некалькі чалавек параніўшы. А армянскія ракеты разбурылі каля дваццаці пабудоў ў вёсках непадалёку ад Агдама.**

● Паводле паведамленняў ліванскай паліцыі, у перастрэлцы ў Бейруце загінулі чатыры чалавекі. Перастрэлка пачалася пасля таго, як паліцыя прапанавала вулічным гандлярам прыбраць іх тавар з вуліцы ў паўднёвым раёне горада. Сярод забітых— два супрацоўнікі сіл бяспекі і дзве грамадзянскія асобы.

## РАДЫЁ «СВАБОДА»

● **На нарадзе міністраў замежных спраў краін НБСЕ, якая пачалася ўчора ў Хельсінкі, абмяркоўваецца шэраг важных праблем. Сярод іх — скліканне міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай нагорнакарабахскаму крызісу. Міністры павінны таксама абмеркаваць праблемы кантролю над узбраеннямі. У члены НБСЕ будуць прыняты Харватыя, Славенія і Грузія. 24 краіны, якія ўдзельнічаюць у хельсінкскім працэсе, падпішуць дагавор «Адкрытае неба». У адпаведнасці з умовамі дагавора, краіны НАТО, а таксама Расія, Беларусь, Украіна, Польшча, Венгрыя, Балгарыя, Чэха-Славакія і Румынія абавязуюцца на ўзаемнай аснове адкрыць сваю паветраную прастору для разведвальных палётаў.**

● Міхаіл Гарбачоў назваў сітуацыю ў былым Саюзе ССР выбуханебяспечнай, указаўшы на сацыяльную напружанасць, што вядзе да зніжэння жыццёвага ўзроўню. Садружнасць Незалежных Дзяржаў не здольная стварыць трывалыя палітычныя інстытуты, заявіў ён. Гарбачоў падкрэсліў гэта ў інтэрв'ю, якое ён даў у Маскве карэспандэнтам амерыканскай газеты «Вашынгтон пост» ў мінулы панядзелак. Па словах былога прэзідэнта СССР, сустрэча кіраўнікоў СНД у Кіеве не дала істотных вынікаў. Гарбачоў сказаў, што самае небяспечнае, гэта разарваць краіну на часткі. Ён заявіў, што мае намер заставацца на палітычнай арэне.

● **Адбылася тэлефонная размова прэзідэнтаў Расіі і ЗША Барыса Ельцына і Джорджа Буша. Буш заявіў, што мае намер звярнуцца да кіраўнікоў вялікай сямёркі з заклікам падтрымаць эканамічныя рэформы ў Расіі.**

● Дырэктар Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША заявіў, што асноўнай задачай яго нага ведамства цяпер з'яўляецца назіранне за развіццём падзей у рэспубліках былога Саюза ССР.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## НАДВОР'Е

**25 сакавіка**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца цёплае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Гродна — 9—11, Магілёве, Брэсце і Мінску — 10—12, Гомелі — 12—14 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 26 сакавіка месцамі па рэспубліцы, 27-га — па захаду рэспублікі дажджы. Тэмпература паветра 26 сакавіка ўначы ад 0 да 5 градусаў цяпла, удзень 5—10 градусаў цяпла, 27-га ўначы 3—8 градусаў цяпла, удзень 8—13 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ. СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Закон Рэспублікі Беларусь аб асновах арганізацыі мытнай службы.**

**Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб мінімальнай заработнай плаце.**

**Пастанова Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму.**

**Вынікі візіту міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі ў ЗША.**

**«Каб не шукаць чорную кошку ў цёмным пакоі».** Саветнік урада — заходнегерманская фірма.

**«Зачараваныя смерцю».** Пісьменнік і час.

**«Давайце спадзявацца».** Гісторыя аднаго вынаходства.

# Польшча: развітанне з ілюзіямі

### ПАЛЯКІ ЎСЁ БОЛЬШ ПЕРАКОНВАЮЦЦА, ШТО ПЕРАХОД ДА ДЭМАКРАТЫІ І РЫНКУ — ПРАЦЭС ПРАЦЯГЛЫ І БАЛЮЧЫ

Развіццё сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Польшчы зноў набліжаецца да крытычнай кропкі. Людзі расчараваліся ў выніках ажыццяўлення ліберальнай канцэпцыі пераходу да рынку адным махам, пры дапамозе «шокавай тэрапіі». Сам прэзідэнт Лех Валенса вымушаны быў прызнаць, што палякі замахнуліся матыкай на сонца. Надзеі «бацькі» польскай эканамічнай рэформы Лешака Бальцаровіча на тое, што рынкавыя механізмы аўтаматычна запрацуюць і ажывяць эканоміку, не апраўдаліся.

Многія апасаюцца, што адыход ад палітыкі Бальцаровіча прывядзе да таго, што яе дасягненні будуць зведзены на нішто. А дасягненні, несумненна, ёсць. Гэта — насычэнне спажывецкага рынку таварамі; адносна невысокая інфляцыя (70 працэнтаў за ўвесь мінулы год); стабілізацыя злотага, яго ўнутраная канверсуемасць; адкрытасць польскай эканомікі свету.

Але значная частка грамадства незадаволена высокай сацыяльнай цаной рэформы. Пераход да рынку, асабліва ва ўмовах вялікага спаду вытворчасці, стварае вялікае поле няўпэўненасці і няпэўнасці. Рабочыя баяцца банкруцтваў дзяржаўных прадпрыемстваў і, такім чынам, беспрацоўя. Сяляне — разарэння і даўгавой пятлі. Апошняя ўжо прывяла да серыі самазабойстваў сярод фермераў. З-за дэфіцыту дзяржбюджэту няма сродкаў на асвету і ахову здароўя, не гаворачы ўжо пра культуру і навуку. Інтэлігенцыя бяднее. Прыватны прадпрымальнік, які спачатку ажыў духам, ужо адчуў на сабе спад пакупной здольнасці насельніцтва.

Да таго ж вакол прадпрымальнікаў, якія ствараюць новую эканамічную будучыню краіны, у апошні час складваецца неспрыяльная атмасфера. Сродкі масавай інфармацыі поўныя выкрывальных матэрыялаў аб эканамічных злоўжываннях, карупцыі, аферах.

У палітычным жыцці таксама пакуль няма дакладнасці і пэўнасці. Праўда, узнікла вялікая колькасць партый, каля дзвюх соцень. Аднак за імі няма трывалай сацыяльнай базы.

У выніку пасля перыяду эйфарыі і надзей на лепшае жыццё, звязанага з падзеннем камуністычнага рэжыму, польскае грамадства вярнулася на глебу цвярозага рэалізму. Яно цяпер цудоўна ўсведамляе тое, што пераход да дэмакратыі і рынку — працэс працяглы і балючы, што на гэтым шляху трэба пераадолець вялікія цяжкасці.

Развеяліся і, як здавалася раней, шматабяцальныя надзеі на Захад. Ужо ніхто не верыць, што Захад ператворыць Польшчу ў вітрыну квітнеючага капіталізму для Усходняй Еўропы, перш за ўсё былога СССР. Усё часцей у Леха Валенсы праСвечваецца думка, што заходні свет падмануў палякаў. Выступаючы не так даўно перад членамі Парламенцкай асамблеі ў Страсбургу, ён сказаў, што Захад проста зрабіў для сябе добры бізнес на польскай рэвалюцыі. Усходняга блока і Савецкага Саюза ўжо больш не існуе і, такім чынам, можна забыць пра Польшчу.

Ва ўмовах сур'ёзнага зруху ў грамадскіх настроях стала відавочна, што метады ажыццяўлення эканамічнай рэформы трэба скарэкціраваць і нават змяніць. Сейм, выбраны ў кастрычніку 1991 года, аказаўся вельмі раздробленым. У ім засядаюць прадстаўнікі 19 партый і арганізацый. Таму з вялікай цяжкасцю ўдалося сфарміраваць трэці пасля верасня 1989 года некамуністычны ўрад. Яго ў снежні 1991 года ўзначаліў 61-гадовы адвакат, былы эксперт «Салідарнасці» Ян Альшэўскі. Калі вясной 1990 года ўзнік канфлікт паміж Т. Мазавецкім і Л. Валенсам, ён стаў на бок апошняга.

Новы ўрад аказаўся праваЦэнтрысцкім. Партыі, якія яго сфарміравалі — Пагадненне цэнтрысцкіх сіл і Хрысціянска-нацыянальнае аб'яднанне, — прызнаюць у першую чаргу традыцыйны польскі каталіцызм і нацыянальную ідэю. У той час як Дэмакратычны саюз Т. Мазавецкага і Ліберальна-дэмакратычны кангрэс Я. Бялецкага — «адукаваныя еўрапейцы».

Урад Альшэўскага вымушаны вырашаць амаль акрабатычныя задачы. Па-першае, неабходна сфармуляваць мэты новай сацыяльна-эканамічнай палітыкі, каб грамадства пагадзілася на далейшае зніжэнне жыццёвага ўзроўню. Такімі мэтамі сталі — захаванне рабочых месц, ажыўленне эканомікі за кошт экспарту і інвестыцый, правядзенне масавай прыватызацыі. Па-другое, як зрабіць так, каб барацьба са спадам прамысловай вытворчасці не выклікала вяртання гіперінфляцыі? Палітычныя апаненты ўрада лічаць, што прапанаваная праграма не вырашае гэтай задачы. Яна з'яўляецца разрывам з палітыкай двух папярэдніх урадаў. Ці ўдасца Альшэўскаму пераканаць парламент падтрымаць яго сацыяльна-эканамічную праграму, пакажа бліжэйшы час.

Лех Валенса лічыць, што трэба даць шанц новаму ўраду. Каб краіна змагла перажыць цяжкі час, ён заклікае падвесці рысу пад мінулым, якое ўсё яшчэ раздзяляе палякаў. На думку прэзідэнта, усе грамадска-палітычныя сілы павінны аб'яднацца для працы на карысць Польшчы.

**Мікалай БУХАРЫН, кандыдат гістарычных навук.**

# Пра «тэст» на пільнасць касіраў,

### або Пра тое, як пакупнік у чарговы раз вымушаны быў даказваць, што ён «не вярблюд»...

Відаць, немагчыма ў нас абысціся без таго, каб не паказытаць нервы спажыўцу. Ды што там паказытаць: амаль у адно імгненне многіх, хто прад'явіў для аплаты сторублёвыя асігнацыі, ледзь што не аднеслі да катэгорыі фальшываманетчыкаў (дарэчы, калі ўлічыць, што «стольнік» для нас такі ж звычайны, як і «траяк», можна меркаваць аб маштабнасці з'явы). Пільныя касіры ўгледзелі, ці, лепш сказаць,— не ўгледзелі, на сторублёвых асігнацыях знаёмага профілю правадыра, ці вадзянога знака, які ўжываецца для аховы грошай ад падроблівання. І, як зразумела ўжо, аб'явілі сторублёўкі несапраўднымі. З адпаведнымі адсюль вынікамі, маючы на ўвазе дарэмны паход многіх у магазін, у касу за білетам і г. д., на што яны, у прыватнасці, і паскардзіліся ў рэдакцыю.

З дапамогай работнікаў Нацыянальнага банка Беларусі здымаем усялякія падазрэнні з пакупнікоў і супакойваем касіраў: «стольнік» без «вадзянога» Леніна мае гэткую ж пакупную здольнасць, як і з Леніным (вядома, у абодвух выпадках адносную). Карацей, гэта — нармальны плацежны сродак, абавязковы да прыёму... Без перашкоджанняў. Дарэчы, на вадзяным полі замест Леніна з'явіліся зорачкі, а зверху, непасрэдна на месцы профілю (на пярэднім баку) — блакітная разетка з лічбамі намінальнай вартасці купюры...

Гэта, як паведаміла аднаму з маскоўскіх выданняў кіраўніцтва Цэнтральнага банка Расіі, і не яе новая валюта, як часам мяркуюць. З'яўленне новых купюр звязана выключна з недахватам паперы з «вадзяным» правадыром. У Нацыянальным банку Беларусі выказалі такое меркаванне: можа ўжо ідуць да таго, каб дызайн у грошай быў іншым. Хоць, зрэшты, на наш, спажывецкі погляд, не так ужо і важна, якім будзе дызайн, з правадыром будуць грошы ці не, галоўнае — колькі можна на іх купіць. А вось менавіта гэтым любыя купюры цяпер не вызначаюцца. Праўда, гэта нікольку не служыць апраўданнем для адпаведных ведамстваў, якія не папярэдзілі вышэйпрыведзеных казусаў. «Крайнім» у нас, як заўсёды, аказаўся спажывец.

Закранём заадно і такі накірунак грашовай тэмы: крэдыты, якія выдаваліся насельніцтву і якія, маўляў (згодна з чуткамі), трэба будзе вяртаць намнога большымі адносна першапачатковай сумы. Маўляў, інфляцыя і тут дыктуе свае ўмовы...

Як зазначылі ў Нацыянальным банку, такога проста не павінна быць. Закон зваротнай сілы не мае. Ды і пры выдачы крэдытаў не агаворваліся асобныя ўмовы, якія могуць наступіць у сувязі з пэўнымі абставінамі. Карацей кажучы, можна і не спяшацца вяртаць грошы, пазычаныя ў дзяржавы, адшукваючы іх сярод блізкіх і знаёмых...

Што ж, каб банк пайшоў (няхай нават з-за той жа інфляцыі) на рэзкае павелічэнне пазыковага каэфіцыента ці працэнтаў па раней выдадзеных крэдытах, якія, яшчэ раз падкрэслім, выдаваліся на пэўных (хоць і на ранейшы час) умовах,— гэта было б з яго боку, мякка кажучы, крайне нецывілізавана. На гэта не можа пайсці нават наш банк. Кліента крыўдзіць нельга. Хоць, між іншым, яго нельга крыўдзіць у любым выпадку — і тады, калі ён выступае ў якасці пакупніка.

**Кар. «Звязды».**

Для параўнання мы сфатаграфавалі новыя грашовыя знакі побач са старымі. Стрэлкі ўказваюць на некаторыя адрозненні, якія з'явіліся на новых купюрах.

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# «Два ўраджаі... бульбы»



**Такая публікацыя з'явілася ў нашай газеце ў мінулую сераду. І ў той жа дзень былі званкі з Мінска і Баранавіч. Людзі не толькі падтрымліваюць саму ідэю двух ураджаяў бульбы за адзін сезон, але і падказваюць нешта сваё.**

Жыхар Баранавіч Міхаіл Сурынаў пяць гадоў двойчы саджае і, натуральна, капае бульбу. Сарты ў яго такія—«ружоўка» («народны сорт», як назваў яго Сурынаў), і «беларускі ранні». Пра «адрэту» ён чуў, але набыць насенны матэрыял не змог.

Першы ўраджай здымае ў сярэдзіне чэрвеня менавіта дзякуючы расадзе. Яе рыхтуе да высадкі ў скрынцы даўжынёй 1 метр, шырынёй 24 і глыбінёй 20 сантыметраў. Размяшчае ў гэтым «карыце» 20 каліў у два рады. Кожная бульбіна абмежавана застаўкамі з поліэтылену. Ніз і сценкі абавязкова высланы плёнкай.

Для кожнай бульбіны ладзіць гняздо з перагною. Яго расада мае не толькі карэньчыкі, але і моцныя зялёныя парасткі.

Высаджвае бульбу, як расаду памідораў, калі адыдуць частыя замаразкі,— пасля 10 мая. Мае пад рукой матэрыялы, якімі можна накрыць пасадкі на выпадак халадоў. Астатняе— акучванне перагнойнай зямлёй, абарона ад фітафторы, як звычайна. Абавязкова падвязвае бульбоўнік да лёгкіх жэрдачак, каб не палёг.

Другі ўраджай знімае з градак, на якіх выспелі не толькі бульба, але і шпінат, радыска, кроп, цыбуля на пяро—тое, што гаспадар вырошчвае на продаж. Другое поле большае за першае — звычайна адна-дзве соткі. Як бачыце, тут і маленькі бізнес.

А мінчанка Алена Селязнёва вырошчвае расаду бульбы ў папяровых пакетах. «Праблем,—як зазначыла жанчына,—ніякіх, бо расада на пастаяннае месца высаджваецца разам з паперай. Ніводзін карэньчык не парушаецца!»

Яшчэ наша чытачка падкрэсліла, што зялёныя сцяблiны і лісты апрацоўвае часнаком, а не хімікітамі. Паўкіло галовак прапускае праз мясарубку, настойвае ў вадзе (тры літры) двое сутак, перамешваючы. Літр гэтага настою на вядро вады — і венікам распырсквае. Робіць гэта вечарам.

Другая мінчанка—Надзея Сонцава паведаміла, што бульбу (ды і іншыя расліны) падкормлівае... вітамінамі. Паўвядра дзьмухаўцу, крапівы, сурэпкі залівае вадой, настойвае і палівае пад корань. «Бульбе гэта падкормка вельмі даспадобы!»— пераканана дачніца. А яшчэ яна выкарыстоўвае ваду, у якой гатаваліся грыбы ці вымочваліся мясапрадукты. Наогул, усё біялагічнага паходжання тут не марнуецца. Нешта ідзе ў кампост, а большасць—прама ў агарод.

## Наша даведка

Радзіма бульбы — Цэнтральная і Паўднёвая Амерыка. Мясцовае насельніцтва спажывала гэтую культуру больш як 14 тысяч гадоў таму назад. З адкрыццём Новага свету Калумбам клубні, якія вельмі спадабаліся маракам-еўрапейцам, былі завезены на наш кантынент. Гэта адбылося ў XVI стагоддзі.

Расійская «бульбяная эпапея» пачалася з... аднаго мяшка, які цар Пётр I даслаў з Галандыі. Расіяне не прынялі прышэльца. Былі нават «бульбяныя» бунты. Толькі з XVIII стагоддзя сяляне трывала «прапісалі» гэтую культуру на сваіх агародах.

У наш час лепшыя гаспадаркі Беларусі накопваюць да 450 цэнтнераў бульбы з гектара. Сярэдні ж паказчык — недзе паміж 130 і 200 цэнтнерамі.

Клубні ўтрымліваюць крухмал (да 27 працэнтаў), бялкі, цукар, іншыя карысныя рэчывы.

Каранёвая сістэма размешчана ў глебе вельмі кампактна: асноўная маса яе знаходзіцца на глыбіні да 25 см. Але асобныя, найбольш «дапытлівыя» карані могуць дасягаць метровай глыбіні. Куст невысокі — 50—90 см. У мяккай глебе сталоны (на іх фарміруецца бульбіна) дасягаюць даўжыні 20—30 см. На цвёрдай глiністай невялікія клубні размешчаны ля самай сцяблiны.

У Беларусі раяніравана больш за дзесятак высокаўраджайных сартоў. Раннія даюць ураджай праз 40 дзён пасля з'яўлення ўсходаў, сярэднераннія — праз 60, сярэднепознія — праз 90—105, познія — праз 105—120 дзён. Вельмі прывабныя апошнія, бо яны найбольш утрымліваюць пажыўных рэчываў.

Камфорт расліна адчувае, калі глеба камкаватая і паветра без перашкод трапляе да каранёў. Пік росту клубняў дасягаецца пры тэмпературы глебы плюс 17 градусаў. Ніжэйшы парог абмежаваны 13 градусамі і вышэйшы — 23. У час інтэнсіўнага клубнеўтварэння (што супадае з пачаткам цвіцення) у максімуме ўжываюцца вада і раствораныя ў ёй макра- і мікраэлементы.

# Як «асадзіць» заўзятых?

**Што рабіць, каб не выцягвалася расада на падаконніках?**
**М. КЛІМОВІЧ, г. Маладзечна.**

Парасткі бываюць з «доўгімі шыямі» па некалькіх прычынах: мала святла, занадта вялікі паліў і перакормліванне азотам. Каб пазбегнуць апошняга, у глебу не трэба ўносіць шмат мачавіны ці салетры. Ад яе карысці амаль ніякай, бо напачатку расада больш за ўсё патрабуе фосфару. Мы часта заўважаем, што, скажам, памідоры нейкага фіялетавага колеру. Гэта якраз і ўказвае на недахват гэтага пажыўнага рэчыва. Бывае і процілеглая з'ява: зялёныя парасткі не развіваюцца, быццам прымерзлі. Іх трэба паліваць цеплаватай вадой з амафосам (чайную лыжачку на 1 літр) ці настоем каравяку ў прынятых дозах.

«Дадаць святла», калі вокны выходзяць на поўнач, вельмі цяжка. Трэба старанна вымыць шыбы, з боку прыладзіць лямпы дзённага святла, зрабіць экраны. Вазьміце люстэрка і паднясіце да расады. Вы адразу заўважыце, як пасвятлее на падаконніку. Кіруючыся гэтым, варта зрабіць пастаянны экран з пафарбаваных у белы колер фанеры ці кардону, фольгі. Урэшце, проста прымацуйце ліст светлай паперы.

Але як бы вы ні стараліся, расліны ўсё роўна будуць цягнуцца да святла. І выцягвацца. Гэта цяга павялічваецца з іх развіццём. Пастарайцеся выносіць сваіх гадаванцаў на балкон ці на сялянскую прызбу. У зацішку пры тэмпературы паветра 10 градусаў цяпла ім будзе вельмі ўтульна. Каб пазбегнуць нечаканасцей — дождж, снег, парывы халоднага ветру — прыкрыйце расаду плёнкай.

Прывучаць яе да адкрытага сонца трэба паступова, пачынаючы з 10 хвілін. Кожны дзень гэту «норму» павялічвайце на 5 хвілін.

Небяспечна трымаць расаду ў суседстве з хатнімі кветкамі. У пакаёвых раслінах стаілася шмат грыбковых хвароб. Яны, нібы пажар, могуць перакінуцца на ваша «поле». Таму кветкі пажадана ізаляваць.

# Кветкі вясны

Першымі на агародзе ўзыходзяць нарцысы і цюльпаны. Усю восень, зіму, большую частку вясны яны знаходзіліся ў стане спакою. Карэньчыкі іх набраліся моцы і, нібы тыя волаты, разам налёгшы, прабілі браню зямлі, выкінулі парасткі. Паглядзіце на дачах, колькі іх выглянула сёння!

Галандскія даследчыкі-селекцыянеры вывелі столькі сартоў, такіх колераў і адценняў, што проста дух захоплівае. Нездарма іх назвалі «каралеўскімі».

Не будзем і мы толькі назіральнікамі. Давайце дапаможам першым кветкам вясны. Тым больш, што работы гэтай нямнога. Раскідаем уздоўж радкоў некалькі запалкавых карабкоў мачавіны ці салетры, стараючыся не трапляць на самі парасткі. Карабок на 1,5—2 метры — якраз хопіць. Матыкай ці граблямі падрапайце зямлю, запраўляючы ўгнаенні. Праз некалькі тыдняў убачыце добры плён гэтай работы. Расліны дружна выкінуць лісце. А сама кветка будзе важкай, ярка афарбаванай і, нібы сама вясна, прывабнай.




● КОЖНАМУ СОРТУ — СВОЙ ТЭРМІН

● ЧАМУ «ГНЕВАЕЦЦА» РАСАДА

● МАЛЕНЬКІ ЧАРАНОК ДАЕ ПАЧАТАК НОВАМУ ДРЭВУ

● «ХІТРЫКІ», ЯКІЯ ПАТРЭБНЫ ЎСІМ

# Прышчэпка мяняе сорт

Мы часта сустракаемся з такой з'явай: купляем адзін сорт, скажам, яблыні, а атрымліваем нешта іншае. Бывае, хвароба, пажар, зайцы знішчаюць амаль усе галінкі. Дрэва стаіць, нібы тое пудзіла.

А магчыма, чалавек проста захацеў змяніць сорт.

У кожным з гэтых выпадкаў жаданы вынік дасягаецца прышчэпкай патрэбнага сорту. На гэты раз чалавек цвёрда перакананы: у яго руках менавіта той, адзіна патрэбны яму чаранок.

Запомнім толькі, што частыя прышчэпкі аслабляюць дрэва. І жадаючы атрымаць нешта новае, можна страціць усё. Такому садаводу давядзецца зноў пачынаць з нуля.

Прышчэпка — гэта перасадка чаранка, вочка-пупышкі ці іншай часткі адной расліны на другую. Прышчэпку робяць такім чынам, каб прышчэпачны матэрыял зросся з асновай як найхутчэй, а дрэва набыло новыя ўласцівасці. Тая частка, на якую робяць прышчэпку, называецца падвой, а тая, якую прышчэпліваюць, — прывой.

Заўважым, што прышчэпленыя дрэвы вельмі рана пачынаюць даваць ураджай. Звычайна на другі год яны радуюць першымі пладамі. У трох ці чатырохгадовым узросце ўраджай даволі значны.

Для паспяховай прышчэпкі важныя такія «дэталі»: сорт, добрыя гадавыя прыросты, здаровы лісцевы экран, адсутнасць маразабоін, ракавых ран і г. д. Пры гэтым узрост не мае вялікага значэння. Нельга толькі чапаць перасаджаныя дрэўцы і вельмі старыя. Першыя могуць загінуць, бо вельмі яшчэ слабыя, а другія неўзабаве знізяць ўраджайнасць.



Лепш на летнія і асеннія сарты прышчэпліваць прывоі такога ж тэрміну выспявання. Зімовыя сарты, прыладкаваныя на летнія, выводзяць дрэва з раўнавагі: плады паспяваюць раней і захоўваюцца горш. А вось летнія ці асеннія сарты на зімовым дрэве адчуваюць сябе няблага. Толькі паспяваюць крыху пазней. Увогуле, на адной асобіне можна размясціць некалькі сартоў (нават да дзесяці). Дрэва адно, а на ім букет розных яблыкаў (аднаго тэрміну выспявання).

У практыцы рэдка бывае, каб «гаспадар» не прыняў прышэльца. І ўсё ж адчужэнне здараецца. А вось наша слаўная «антонаўка» — універсальная. Яна прымае любыя сарты, ладзіць з імі, нібы родная маці. Ужо з трэцяга года дае стабільныя ўраджаі. Добрыя таксама для гэтай справы «белы наліў», «шарапай», «грушаўка», «беларускі сінап», розныя дзічкі, «штрэйфлінг».

У дрэвах можна мяняць усю крону (у дарослых за 2—3 гады), а можна і асобныя галінкі ці сектары кроны. Напрыклад, дрэва да 9 гадоў можна прышчапіць за адзін сезон. Больш старыя — паступова. Дыяметр галін не павінен перавышаць 5—6 сантыметраў.

Акрамя яблыні, добра паддаюцца прышчэпкам груша, сліва, вішня. Ёсць прыклады «змешаных шлюбаў»: на чорную рабіну ладзілі грушу, на глог — яблыню, а ірга паспяхова «прымала» тую ж грушу.

Прышчэпкі робяць вясной і летам. Веснавая работа якраз пачалася. Яна прыносіць задавальненне і ўдачу не толькі вопытным майстрам, але і навічкам-дылетантам.

Для работы неабходна мець хоць бы дзве садовыя пілы з розным наборам зубоў (лепш дробнымі), сякатар, адточаны нож, ізаляцыйную стужку, садовы вар і, вядома ж, чаранкі з гадавалых галінак.

На сліве ўсе работы трэба правесці раней: яна кранаецца ў рост ледзь ці не першай. А наогул аптымальны тэрмін — з пачатку надыходу ўстойлівых станоўчых тэмператур да распускання пупышак. Чаранок жа павінен быць «спячым» і здаровым (на зрэзе зялёны з дакладна акрэсленай сарцавінай). Засохлы і той, што ўжо крануўся ў рост, бракуюцца.

Звычайна чаранкі зразаюць у сярэдзіне снежня. Але сёлета зіма была мяккай, дрэвы не падмерзлі, таму чаранкі можна нарыхтоўваць і зараз.

На малюнку першым вы бачыце дрэва, падрыхтаванае для абнаўлення. На асобных месцах ёсць даволі значныя галінкі. Яны пакінуты спецыяльна. Дрэва ж павінна «размаўляць» з сонцам, каб развівацца. А гэта дасягаецца лісцем.

Другі малюнак паказвае найбольш даступныя спосабы прышчэпак.

Звернем увагу садаводаў на неабходнасць гігіены. Рукі, нож, пілы, сякатар, чаранкі павінны быць чыстымі. Інструменты патрымайце 10—20 хвілін у растворы 5-працэнтнай марганцоўкі. За зрэзы на чаранку і прапілы на галінках рукамі не брацца! Рэзаць чаранкі з сярэдзіны галінкі, з добра развітымі дзвюма-трыма пупышкамі. Над верхняй з іх робіцца касы зрэз, у камлі — клін ці іншыя канфігурацыі (зноў глядзі малюнак). Чаранок устаўляецца на сваё новае месца з лёгкім намаганнем. І толькі пасля шчыльна абгортваецца (знізу ўверх) ізаляцыйнай стужкай. Стужкай закрываецца толькі месца прышчэпкі. Верх чаранка і зрэз дрэва (калі ён ёсць) замазваюцца садовым варам.

Каб прышчэпка лепш прыжылася, яе «апранаюць» у спецыяльны празрысты мяшочак з плёнкі, зрабіць які працей простага. Складваем плёнку ўдвая, і старым нажом, прапаленым на пліце, «рэжам» патрэбныя «дэталі». На галінцы іх завязваем. Як толькі зялёныя лісточкі ўпруцца ў плёнку, ахоўныя прылады здымаем. Яшчэ праз паўмесяца ці месяц здымаем і абвязку з ізаляцыйнай стужкі. Ваш «сынок», як птушка, рушыць у палёт.

Ён будзе імкнуцца заняць вертыкальнае становішча. А вам трэба, каб рос з невялікім нахілам (як і іншыя галінкі). Прымушаюць чаранок расці ў патрэбным напрамку, злёгку адгінаючы яго ўніз спецыяльным калком ці проста накінутай вяровачкай, якая прывязана да ніжняй галінкі.

Калі чаранок пачне новае сваё жыццё, яму варта «стварыць камфорт». Для гэтага зрэзаць усе ваўчкі на галінцы-маці і на іншых, даючы доступ сонцу і ветру.

**Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## 25 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.40. Праграма перадач.
8.45. «Сашка». Мастацкі фільм.
16.30. Фільм — дзецям. «Ліловы шар».
17.45. «Радасць роднай песні». Абрад «Каляды».
18.00. Дак. фільмы «Не страляйце ў музыканта», «Кветнік».
19.00. Панарама.
19.25. Абласныя навіны (Гомель).
19.35. Наш каментарый. «Інфляцыя свядомасці».
19.40. Прафсаюзы: праблемы, каментарыі.
20.00. «У горад прыехаў клоун». Фільм-канцэрт.
20.25. Калыханка.
20.45. Гандаль-дайджэст.
21.00. «Амарочка». Кінанарыс.
21.15. «Пярэзвы». Да фестывалю беларускага народнага танца.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
23.30. НІКа.

**I канал. Астанкіна**

5.00. Раніца.
7.35. Дзіцячы музычны клуб.
8.15. Старыя добрыя казкі. «На залатым ганку сядзелі».
9.25. Навукова - папулярны фільм «Памяці Йорыка, каралеўскага блазана».
10.00. «Брэйн рынг».
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. Дак. фільм. «Куды плывуць казулі».
11.45. «Відавочнае — неверагоднае».
12.25. Фермата.
12.55. Як дабіцца поспеху.
13.15. Тэлемікст.
14.00. Навіны.
14.25. Сёння і тады.
14.55. «Хто паедзе ў Трускавец?» Мастацкі фільм.
16.05. Фільм — дзецям. «Васьміногі з другога паверха». 3-я серыя.
17.00. Навіны.
17.25. «Польскі вопыт — для Расіі».
17.55. «Песні вясне». Мультфільм.
18.10. Мастацкі фільм «Усё нармальна...»
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.35. «Чорная скрыня».
21.15. Фермата.
21.45. «Сеанс паміж сеансамі».
23.00. Навіны.
23.20. «Гукавая дарожка».

**Канал «Расія»**

8.50. Фальклор. «Невядомыя культуры».
9.45. Дакументальная панарама. «Шлях».
10.35. «Няхай няўдачнік плача...» На прэм'еры спектакля С. Юрскага «Ігракі-21».
11.30. «Недапёсак Напалеон III». Мастацкі фільм.
12.40. «Зямельная рэформа».
13.00. Весткі.
15.00. «Чараўнік Ізумруднага горада». 5-я, 6-я серыі.
15.45. Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
16.45. Т. Ін. Ка.
17.00. «Далёкі Усход».
17.45. Вольны час. «Аўто».
18.00. Паны-таварышы.
18.20. Антракт.
18.35. Тварам да Расіі.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. «БДТ: учора, сёння, заўтра...» Перадача 1-я.
20.25. «Жадаю Вам...» Мастацкі фільм.
20.55. Я. Гайдар у прэс-цэнтры «Рэспубліка».
22.00. Весткі.
22.20. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
22.50. Дабрачынны вечар на карысць «Марфа-Марыінскай суполкі».

## 26 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. «Кодавая назва «Паўднёвы гром». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
16.25. Праграма перадач.
16.30. Фільм — дзецям. «Белы слон».
17.50. «На рынгу». Мультфільм.
18.00. Дак. фільмы.
19.00. Панарама.
19.25. Абласныя навіны (Гродна).
19.35. Зачытайце маё пісьмо...
19.40. Цягнік спыняецца на 40 хвілін. Рэпартаж з Гродзенскай мытні.
20.05. Лёс, які мы выбіраем.
20.25. Калыханка.
20.45. Тыдзень беларускага ўрада.
21.00. Латарэя ўдачы.
21.05. «Жарт-крок». Гумарыстычная праграма.
21.50. «Калінка». Тэленарыс.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
23.30. НІКа.

**I канал. Астанкіна.**

5.00. Раніца.
7.35. Выступленне Узбекскага фальклорнага ансамбля «Шалола».
7.50. «Царэўна-жаба». Мультфільм.
8.20. Старыя добрыя казкі. «Сцяпанава памятка».
9.45. «Сеанс паміж сеансамі».
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.25. Пад знакам «пі».
12.20. «Генадзь Гладкоў». Фільм-канцэрт.
13.15. Тэлемікст.
14.00. Навіны.
14.25. Рамансы рускіх кампазітараў.
14.50. «За Вятлугай-ракой». Мастацкі фільм.
16.00. «Таленты і паклоннікі».
17.00. Навіны.
17.25. ...Да 16 і старэйшым.
18.05. «Карцінкі па даўнейшаму». Мультфільм.
18.15. Хакей. Чэмпіянат СНД. Паўфінал.
20.00. Навіны.
20.35. Музыка ў эфіры.
22.30. Тэлескоп.
23.00. Навіны.
23.20. Лімпапо.
23.50. Тэлефільм «Рая».

**Канал «Расія»**

7.00. Весткі.
7.20. Іспанская мова. 1-ы год навучання.
7.50. Вольны час. «Дамашні клуб».
8.05. Іспанская мова. 2-гі год навучання.
8.35. Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
9.35. «Салют, Амерыка!» Міжнародны фестываль лацінаамерыканскай музыкі.
10.10. Я. Гайдар у прэс-цэнтры «Рэспубліка».
11.10. «Калі я стану веліканам». Мастацкі фільм.
12.40. «Калмыцкі фермер».
13.00. Весткі.
15.00. «Чараўнік Ізумруднага горада». 7-я, 8-я серыі.
15.40. Школа менеджэраў.
16.10. Восень жыцця.
16.25. Музычны клас.
16.45. Т. Ін. Ка.
17.00. Манера.
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. Вольны час. «Увага: здымаю!»
18.15. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Расіі. Перадача 2-я.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Спецыяльны камерцыйны веснік.
19.40. «БДТ: учора, сёння, заўтра...» Частка 2-я.
20.40. Антракт.
20.55. Пятае кола.
22.00. Весткі.
22.25. На сесіі ВС Расіі.
22.55. Пятае кола. Працяг.
23.40. Расійскі конкурс бальных танцаў у г. Омску.






# Менінгіты

**Гэта — запаленне мазгавых абалонак. Калі пераважна паражаецца павуцінная абалонка мозгу, запаленне называюць арахнаідытам.**

Адрозніваюць першасныя менінгіты, калі першапачаткова паражаецца інфекцыяй абалонка мозгу, і другасныя, калі запаленне абалонкі ўзнікае як ускладненне інфекцыйнай хваробы ўсяго арганізма ці яго асобнага органа — слюнной залозы, лёгкіх, унутранага вуха, зубоў.

**ПРЫКМЕТЫ.** Для ўсіх менінгітаў характэрны менінгеальны сіндром, ці сіндром раздражнення абалонак мозгу. Для яго характэрны наступныя прыкметы: моцны галаўны боль, ваніты, павышаная адчувальнасць да святла (святлабоязь); да гукаў, дотыку да скуры, цвёрдасць мышцаў патыліцы (пры апусканні галавы ляжачы хворы не можа дакрануцца падбародкам да грудзей), у ляжачага на баку хворага ногі прыцягнуты да жывата, галава закінута, пазваночнік выгнуты (поза выжла). Акрамя таго, выяўляюцца сімптомы Кернiга (абмежаванасць разгінання нагі ў каленным суставе, калі яна сагнута ў тазабедраным), Брудзінскага — верхні (згінанне ног у каленных і тазабедраных суставах, калі пасіўна згінаць галаву хворага); сярэдні (мімавольнае згінанне ног у каленных і тазабедраных суставах, калі націснуць на лабок) і ніжні (калі прыціснуць бядро сагнутай у каленным суставе нагі да жывата, згінаецца другая нага).

Захварэўшае менінгітам дзіця падцягвае ногі да жывата, калі яго падымаць пад рукі. Тэмпература цела, як правіла, павышаная. Бываюць трызненне, псіхаматорнае ўзбуджэнне, галюцынацыі. Нярэдка адзначаюцца дваенне ў вачах, касавокасць, апушчэнне верхняга павека, абмежаванасць рухомасці вочных яблыкаў. У цяжкіх хворых развіваюцца санлівасць, парушаюцца дыханне і сардэчна-сасудзістая дзейнасць.

**АКАЗАННЕ ДАПАМОГІ.** Калі ў хворага адначасова з галаўным болем тэмпература цела становіцца вышэй за 38° С, з'яўляецца святлабоязь, ён не пераносіць шуму, дакранання да скуры, адзначаецца цвёрдасць мышцаў патыліцы і іншыя менінгеальныя сімптомы, якія вы можаце выявіць самі, неадкладна выклікайце «хуткую дапамогу».

Даглядаючы хворага, не шуміце, вокны завесьце шторамі. вельмі асцярожна паварочвайце яго пры змене бялізны. Для папярэджання пролежняў працірайце скуру на крыжы, ягадзіцах камфарным спіртам. Сачыце за тым, каб пад спінай хворага прасціна не збіралася ў складкі, каб хворы мачыўся на судна, пакладзіце яго таз на надзіманы гумавы кружок.

Пры псіхаматорным узбуджэнні сачыце за тым, каб хворы не выбег з пакоя, не пашкодзіўся. Калі тэмпература цела высокая, пакладзіце на галаву хворага грэлку з ільдом ці халоднай вадой, раскрыйце яго, пакладзіце халодныя кампрэсы на шыю, локцевы згіб, пахавую вобласць.

**Т. ФАМІНА,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**
г. Мінск.


Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Людміла Рыжанкова, намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Тыраж 81.784. Індэкс 63.850. Зак. № 61. Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12